ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№6 (63) чэрвень 2016 год
CATHOLICNEWS.BY



Стар. 2

## Новы канцлер у Віцебскай дыяцэзіі

Біскуп Алег Буткевіч прызначыў канцлерам Віцебскай дыяцэзіі кс. Віктара Місевіча.

## Беларуская дуда на каталіцкім фэсце

Дудары Віталь Воранаў і Юрась Панкевіч выступілі на фэстах у гонар святога Антонія Падуанскага ў Параф'янаве і Удзеле.
Чытайце на старонках 4 – 5,
а таксама глядзіце нас на catholicnews.by



Стар. 16

## Запрашаем на міжнародныя рэкалекцыі на байдарках!

## Піяр беларускіх эколагаў за кошт Касцёла?

Стар. 5

## У Кракаў – усяго за 190 еўра!




Стар. 3

## Абвяржэнне міфа, або Хто прыдумаў "цёмнае Сярэднявечча?"

Стар. 7



Стар. 4-5



Юрась Панкевіч



# Новы канцлер у Віцебскай дыяцэзіі

**Біскуп Алег Буткевіч 15 чэрвеня 2016 года прызначыў канцлерам Віцебскай дыяцэзіі кс. Віктара Місевіча, галоўнага рэдактара "Каталіцкага Весніка".**

Кс. Адам Дынак, які дагэтуль займаў пасаду канцлера дыяцэзіі, дэкрэтам біскупа Алега скіраваны на працу ў Міждыяцэзіяльную Духоўную Семінарыю ў Пінску.

Кс. Віктар Місевіч з 1996 да 2001 навучаўся ў Вышэйшай Духоўнай Семінарыі ў Гродне. У 2003 атрымаў ступень магістра тэалогіі ў Варшаўскім Універсітэце кардынала Стэфана Вышынскага. У 2004 быў пасвечаны ў святары і працаваў у парафіях Віцебскай дыяцэзіі: у Віцебску, Полацку, Ветрыне, Фарынаве, Глыбокім, Бягомлі і Дзеркаўшчыне. У 2014 годзе скончыў Каталіцкі Універсітэт Яна Паўла ІІ ў Любліне. Атрымаў ступень магістра кананічнага права і здаў экзамен на ступень ліцэнзіята з правам выкладання ў каталіцкіх вышэйшых навучальных установах. З 2012 да 2014 года кіраваў Біскупскім Судом у Віцебску. З'яўляецца суддзёй гэтага Суда.

Да абавязкаў канцлера ў Каталіцкім Касцёле належыць афармленне дакументаў, справаводства і заведванне курыяльным архівам.



# Лучайская парафія запрашае ў паломніцтва

**Ксёндз Мікалай Ліпскі – пробашч парафіі святога Юды Тадэвуша, Апостала, у вёсцы Лучай Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці запрашае ў чарговае паломніцтва.**

На гэты раз яно будзе прысвечана Году Божай Міласэрнасці, пройдзе па месцах, звязаных з беларускім першадрукаром Францыскам Скарынам, і будзе прымеркаванае да надыходу юбілейнага году выдання першай друкаванай Бібліі на старабеларускай мове.

**Маршрут пілігрымкі:** Лучай – Вільня – Трокі – Кракаў – Вена – Венецыя – Рым – Падуя – Прага – Чэнстахова.

**Час паломніцтва:**
19-28 верасня.

**Папярэдні кошт** – 450 €.

Запісацца і задаць пытанні можна па тэлефонах:
**8-029- 952-36-13** (Velcom)
**8-033-385-72-92** (МТС)

# У Ватыкане з'явілася новая Дыкастэрыя*

**Каталіцкі Касцёл, які аб'ядноўвае больш за 1,2 мільярда людзей усяго свету, з'яўляецца надзвычай вялікім арганізмам. Для таго, каб на практыцы падтрымліваць адзінства веры і вучэння, каб захоўваць і навучаць праўдзе, прынятай ад Пана, у Касцёле дзейнічае шэраг структураў на розных узроўнях.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Рэлігія не з'яўляецца выключна прыватнай справай чалавека, як гэта хтосьці можа памылкова лічыць. Езус прыйшоў на зямлю, каб вярнуць Бога ў гэты свет, каб накіраваць усіх людзей на дарогу, якая вядзе да шчасця, справядлівасці, любові. Вяртанне да Бога ўключае ў сябе ўвесь спектр людскога жыцця – як асабістага, так і грамадскага. Пытанні экалогіі, міжнацыянальных узаемаадносін, міру, сацыяльнай справядлівасці з'яўляюцца такімі ж прадметамі Божай волі, як і наша асабістае пакаянне, выкананне Божых запаведзяў і выбудова адносін з Нябесным Айцом. Менавіта таму на розных узроўнях, ад мясцовых парафій да Апостальскай Сталіцы, у Касцёле дзейнічаюць адпаведныя ўстановы, якія пакліканыя дбаць пра кожную сферу нашага жыцця.

4 чэрвеня 2016 г. Святы Айцец Францішак па прапанове Рады кардыналаў зацвердзіў статут новай Дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця, якая з 1 верасня 2016 г. заменіць цяперашнія Папскую раду па справах свецкіх і Папскую раду па справах сям'і.

Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, новая Дыкастэрыя будзе падзелена на тры секцыі: у справах свецкіх вернікаў, у справах сям'і і ў справах жыцця. Яе кампетэнцыі будуць распаўсюджвацца на пытанні, звязаныя з дзейнасцю Апостальскай Сталіцы ў напрамках садзейнічання жыццю, апостальства свецкіх вернікаў, душпастырства сям'і і яе місіі, абароны і падтрымкі чалавечага жыцця.

Секцыя ў справах свецкіх вернікаў будзе працаваць над пашырэннем місіі свецкіх у Касцёле і ў свеце. Заданнем секцыі па справах сям'і будзе душпастырскі клопат пра сям'ю, падтрымка яе годнасці, якая вынікае з сакраманту сужэнства, абарона яе правоў і абавязкаў у Касцёле і ў грамадзянскай супольнасці. Секцыя па справах жыцця павінна падтрымліваць і кардынаваць ініцыятывы, накіраваныя на абарону чалавечага жыцця ад зачацця да прыроднай смерці. Дадзеная секцыя будзе знаходзіцца ў супрацоўніцтве з Папскай акадэміяй жыцця.

У гэты ж дзень, 4 чэрвеня 2016 г., Папа выдаў дакумент пад назвай "Як Маці, Каторая любіць", паводле якога біскупы, што нядбайна ставяцца да высвятлення выпадкаў сексуальнага гвалту над дзецьмі, будуць вызваляцца ад пасады. У дакуменце вызначаецца, што сярод сур'ёзных прычын, якія вядуць да вызвалення біскупа ад пасады, ёсць марудлівасць у дачыненні да спраў, звязаных з сексуальным гвалтам у адносінах да непаўнагадовых і дарослых асобаў з абмежаванымі магчымасцямі.

Дадзеныя рашэнні Святога Айца пакліканы палепшыць працу Касцёла па абароне Божага парадку ў сферы сямейных адносін, а таксама паслужыць актывізацыі ў рэлігійным жыцці свецкіх вернікаў. Будучыня залежыць ад нашых дзеянняў сёння. Тое, якою будзе сям'я, наколькі прынцыпова і шчыра вернікі будуць следаваць за Хрыстом, вызначыць, якім будзе заўтрашні свет.

*Дыкастэрыя – італьянскі тэрмін, які азначае ведамства Рымскай Курыі. Да дыкастэрый Апостальскай Сталіцы належаць кангрэгацыі, трыбуналы, папскія рады, ведамствы і сакратарыяты. Налічваецца каля 30 розных кшталту дыкастэрый Рымскай Курыі.



# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ганна Курыловіч** *(Новы Пагост)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ніна Яроцкая** *(в. Дзешчанка, Уздзенскі р-н)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Людміла Каросцік** *(ст. Параф'янава)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

## Фотафакт



**Епископ Витебский Олег Буткевич принял участие в XII Международной медицинской конференции в Витебске.**
**XII Международная медицинская конференция «Проблемы врачебной этики в современном мире» прошла 9-10 июня в Витебске. В форуме участвовали представители Беларуси, Ватикана, Италии, Польши, Шри-Ланки, Нигерии и других стран.**
**Участники конференции посетили УЗ «Витебский областной клинический онкологический диспансер», ознакомились с новейшими технологиями в лечении онкопатологии, осмотрели больничную каплицу, встретились с администрацией, медработниками и пациентами.**

## Piligrymka.by запрашае ў Кракаў на СДМ з удзелам Святога Айца

**Piligrymka.by запрашае вас прыняць удзел у XXXI Сусветных днях моладзі ў Кракаве з удзелам Святога Айца Францішка.**

**Прыняць удзел у сустрэчы ў Кракаве значыць:**

- маліцца ў спевах і цішыні ў найпрыгажэйшым горадзе Польшчы;
- абнавіць надзею разам з дзясяткамі тысяч маладых людзей з Еўропы і ўсяго свету;
- сустрэцца з людзьмі, якія сведчаць аб Евангеллі і фармуюць грамадства заўтрашняга дня.

Пілігрымка на СДМ – гэта не толькі супольная малітва і духоўныя разважанні, але яшчэ і цікавыя знаёмствы, цудоўны адпачынак, яркія ўражанні! Мы запрашаем вас далучыцца да нас і разам прыняць удзел у СДМ у Кракаве.




**Час:** 24 ліпеня – 2 жніўня.
**Кошт:** 190 еўра ў эквіваленце.

**Праграма:**
**24 ліпеня** – вячэрні выезд з Мінска (ст. Дружная). Начны пераезд мяжы. Транзіт па Польшчы.
**25 ліпеня** – прыезд у Кракаў, размяшчэнне.
**26–31 ліпеня** – удзел у XXXI Сусветных днях моладзі ў Кракаве з удзелам Святога Айца Францішка.
**1 жніўня** – ранішні выезд з Кракава, заезд у Варшаву, начны пераезд.
**2 жніўня** – ранішні прыезд у Мінск.
**Кантактныя нумары:**
+375 29 602-00-98,
+375 29 708-00-78

# Парафія ў Оршы святкуе юбілей

**4 чэрвеня наша парафія Беззаганнага Сэрца Панны Марыі ў Оршы адзначае свой 15-гадовы юбілей.**

**Люцыя Насовіч**

Магчыма, гэта не такі сталы ўзрост для парафіі, але для нас, парафіян, нашага святара – гэта няпросты час і шлях. Ля вытокаў заснавання нашай парафіі разам з невялікай колькасцю парфіян быў ксёндз Збігнеў Казлоўскі (2001г.), але набажэнствы праходзілі ў касцёле святога Юзафа. Далейшую працу працягнуў ксёндз Здзіслаў Петрашэвіч. Набажэнствы першапачаткова адбываліся на пляцы, дзе цяпер будуецца святыня, а потым паставілі капліцу. Нядоўгі час у нас працаваў ксёндз Адам Дынак. А з 2009 года і па сённяшні дзень у нас працуе ксёндз-пробашч Валерый Орсік.

### Адважнае будаўніцтва

З цяжкасцю верылася, што ў наш нялёгкі час і малалікасць парафіі магчымае далейшае яе развіццё і будаўніцтва святыні. Менавіта з асобай ксяндза Валерыя звязана ўзвядзенне святыні і згуртаванне парафіян. Увесь гэты час ён нястомна і самааддана аддае свае сілы на далейшае станаўленне, росквіт парафіі, будаўніцтва святыні. Гэта патрабуе шмат намаганняў, пошуку фундатараў, будаўнікоў, набыцця будаўнічых матэрыялаў, афармлення шматлікіх дакументаў. Але дзякуючы яго энтузіязму, ініцыятыве, настойлівасці, працавітасці і веры ў тое, што святыня будзе пабудаваная, дапамозе добрых людзей, у нас ужо ўзвышаецца будынак храма, вядуцца ўнутраныя работы.

29 чэрвеня 2014 года нашу парафію наведаў біскуп Алег Буткевіч, адбылося асвячэнне закладнога каменя. А падчас біскупскай візітацыі ў красавіку 2016 г. храм ужо меў сучасны выгляд.

### Шляхамі пілігрымак

Значна ажывілася жыццё нашай парафіі, калі сталі працаваць сёстрыфранцішканкі Генаэфа Марошэкі Марыстэла Карбаўнічэк, а потым – Зоф'я Каспровіч. Разам з ксяндзом быў створаны клуб для парафіян старэйшага ўзросту "Сеньёр". Праводзіліся катэхеза і святы з дзецьмі і моладдзю, разнастайная праца з хворымі і адзінокімі людзьмі, стварылі хор. А яшчэ парафіяне добраўпарадкоўваюць тэрыторыю ля сцен разбуранага касцёла Дзевы Марыі ў Смалянах, удзельнічаюць у пілігрымках да святыняў Беларусі, Польшчы, прымаюць у сябе байкераў з Польшчы, якія ўдзельнічаюць у міжнародным Катынскім маршы і многае іншае.

Дзякуючы хоць і не доўгай працы сясцёр-францішканак, асабістаму прыкладу ксяндза Валерыя, яго малітвам і казанням падчас Імшы наша парафія мацнее, сюды цягнецца і моладзь, прыходзяць і дарослыя. Многа часу ўдзяляе ксёндз працы з моладдзю. Нашы дзеці адпачываюць за мяжой – у Польшчы, Італіі. А летам 2015 г. мы правялі Першую дыяцэзіяльную парафіяду дзяцей і моладзі.

Мы віншуем парафіян, усіх, хто працаваў у нашай парафіі, хто стаяў ля яе вытокаў, са святам Беззаганнага Сэрца Панны Марыі, а нашаму ксяндзу Валерыю Орсіку выказваем шчырую ўдзячнасць за яго нялёгкую ахвярную працу у нас, жадаем моцнага здароўя, цярплівасці, адданых і ўдзячных вернікаў, добразычлівых людзей. Няхай Міласэрны Бог узнагародзіць Вас за ўсё, што Вы робіце для нас! Апекі Маці Божай Вам, Вашым справам і Вашым бацькам!



# Беларуская дуда



**Падзея адбылася ў Параф'янаве ва ўспамін св. Антонія Падуанскага.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

## Крыху гісторыі

Сучасны будынак храма ў Параф'янаве быў пабудаваны ў 1900 – 1904 гадах. Гліну для цэглы, што выкарыстоўвалася пры будаўніцтве касцёла, здабывалі ў Парэччы. На кожнай цагліне, выраблена з той гліны, стаяць ініцыялы Балюслава Корна, тагачаснага пробашча парафіі, які ініцыяваў збор сродкаў на пабудову храма. У 1907 годзе храм быў урачыста асвечаны.

Непадалёк ад Параф'янава ў фальварку Ямнае нарадзіўся Мечыслаў Багаткевіч, які стаў святаром і правёў у параф'янаўскім касцёле сваю першую Імшу. У 1942 годзе ён разам з іншымі святарамі быў арыштаваны нямецкімі ўладамі і змешчаны ў Беразвецкую турму. 4 сакавіка святароў расстралялі. У 1999 годзе Папа Ян Павел ІІ прылічыў іх да ліку благаслаўлёных.

У 1963 годзе касцёл быў зачынены савецкімі ўладамі і ператвораны ў склад віннага завода. У 1988 годзе храм быў вернуты католікам. За 25 гадоў будынак касцёла быў значна пашкоджаны і прыйшоў у занядад. Спатрэбілася 11 гадоў, каб правесці тут рамонт і надаць касцёлу годны выгляд. Гэта сталася дзякуючы працы людзей і тагачаснага пробашча айца Тадэвуша Кавальскага. Зараз пробашчам парафіі з'яўляецца ксёндз Раман Мурзіч.

## Фэст распачаўся пад гукі дуды

Сёлетняя ўрачыстасць як заўсёды сабрала шмат вернікаў. На фэст прыехалі ксёндз Алег Мурзіч з Канстанцінава Мядзельскага раёна, ксёндз Мікалай Ціхановіч з Глыбокага, ксёндз Мікалай Ліпскі з Лучая Пастаўскага раёна, айцец Юрый Катовіч з Докшыц, ксёндз Віктар Місевіч, галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка".

Адметнасцю сёлетняга фэсту стала тое, што на ім прысутнічалі дудары Віталь Воранаў і Юрась Панкевіч. Калі святары перад пачаткам Імшы заходзілі ў храм, іх суправаджалі гукі дуды.

Святую Імшу ўзначаліў ксёндз Алег Мурзіч. Божае слова прамовіў да вернікаў ксёндз Мікалай Ціхановіч.

## Святы заступнік з Падуі

У сваім слове да вернікаў ксёндз Мікалай спачатку коратка нагадаў гісторыю жыцця святога Антонія. Будучы святы нарадзіўся ў 1195 годзе ў Лісабоне ў Партугаліі. Калі яму было 15 гадоў, ён уступіў у ордэн аўгусцінцаўэрэмітаў, дзе прыняў святарскае пасвячэнне. Пад уражаннем мучаніцкай смерці пяці францішканцаў, якіх забілі мусульмане, ён вырашае ўступіць у гэты ордэн. Там ён прыняў імя Антоній. Потым выехаў на місію ў Марока, але з-за слабага здароўя мусіў вярнуцца.

Па дарозе дадому здарылася караблекрушэнне, і ён вымушаны быў застацца ў Італіі. Там у яго адкрыліся вялікія прамоўніцкія здольнасці, і яго накіравалі ў Паўночную Італію, дзе ён хутка набыў папулярнасць. Быў выпадак, калі паслухаць яго адначасова сабраліся 30 тысяч чалавек!

Памёр Антоній 13 чэрвеня 1231 года і менш на праз год быў кананізаваны. Яго рэлківіі знаходзяцца ў базіліцы ў Падуі, дзе да сённяшняга часу здараюцца цуды. Святы Антоній лічыцца апекуном закаханых, сужэнцаў, падарожных, дапамагае знаходзіць згубленыя рэчы.

## Унікаць брыдкаслоўя

Ксёндз Мікалай распавёў пра той час, калі ён знаходзіўся ў базіліцы святога Антонія ў Падуі. Найбольш яго ўразіла тое, што Бог пакінуў нятленным язык святога. Таму сваё казанне ксёндз Мікалай прысвяціў гэтай частцы чалавечага цела. Бо хоць гэты орган параўнальна невялікі, але вельмі важны. З дапамогай яго можна славіць Бога, а можна знішчыць чалавека.

У наш час вельмі шмат людзі брыдкасловяць, часта нават не заўважаючы гэтага за сабой. Даходзіць да таго, што чалавек нават сказа не можа вымавіць, не ўжыўшы некалькі брыдкіх словаў.

*"Гнілыя словы, інакш іх нельга назваць, становяцца, на жаль, нормай у мове нашага народу. Брыдкаслоўе ўжываецца ў сем'ях як паміж дарослымі, так і, што найгорш, у размове бацькоў з маленькімі дзецьмі,"* – адзначыў святар.

Ён адзначыў, што нават язычнікі ўдзялялі вялікую ўвагу значэнню слова. Яны забаранялі брыдкаслоўе не толькі ва ўласным доме, а нават і ў хляве, каб не сурочыць жывёлу. Строга забаранялася лаяцца на дзяцей і цяжарных жанчын. На жаль, у наш цывілізаваны час гэта стала нормай жыцця. Але вернікі павінны змагацца з гэтай прывычкай.

Ксёндз Мікалай падкрэсліў: *"Як з адной крыніцы не можа выцякаць чыстая і брудная вада, так і з вуснаў чалавека, якія прамаўляюць добрыя словы, не павінны выходзіць праклёны."*

Напрыканцы свайго слова ён адзначыў, што Бог міласэрны і ў стане дараваць чалавеку яго грахі, у тым ліку і брыдкаслоўе. Ад чалавека патрабуецца толькі цвёрдая пастанова выправіцца і надалей унікаць ужывання гэтых словаў.

## Прэм'ера "Малітвы да святога Антонія"

У фэсце ўдзельнічаў глыбоцкі хор "Ave Maria". Ён упершыню выканаў песнюмалітву, прысвечаную святому Антонію, словы да якога напісала Марыя Ючкавіч, якая з'яўляецца парафіянкай гэтага касцёла. Музыку да гэтага твора напісала Ганна Шакола з Глыбокага.

Трэба адзначыць, што песні на словы Марыі Ючкавіч і музыку Ганны Шакола ўжо сталі з'яўляюцца на старонках "Каталіцкага Весніка", а вось пазнаёміліся творцы толькі зараз, на фэсце ў Параф'янаве.

*"Мне вельмі прыемна, што я сёння ўпершыню сустрэлася з паэткай Марыяй Ючкавіч. Адбылася прэм'ера нашай "Малітвы да святога Антонія", думаю, што святы пачуў нашу песню,"* – сказала Ганна Шакола.

# "Даверце сваіх дзяцей Богу!"

## У Глыбокім паманіліся за выпускнікоў і іх бацькоў

**Святая Імша з блаславеннем для адзінаццацікласнікаў на заканчэнне навучання ў школе адбылася ў касцёле Святой Тройцы 9 чэрвеня.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Глыбоцкі храм быў цалкам запоўнены вернікамі, на богаслужэнне прыйшлі выпускнікі, іх бацькі, бабулі з дзядулямі, а таксама настаўнікі.

Імшу ўзначаліў пробашч парафіі ксёндз Мікалай Ціхановіч. У сваім слове да бацькоў ён адзначыў, каб не баяліся давяраць сваіх дзяцей Богу: *"Вы ўжо будзеце менш іх кантраляваць, а з Божай дапамогай у іх будзе ўсё ў парадку".*

*"Бог з'яўляецца крыніцай жыцця, мудрасці і любові,* – сказаў пробашч, звяртаючыся да выпускнікоў, – *мы давяраем сваю будучыню ў вашы рукі, а яна залежыць ад вашых адносін з Богам".* Ён заклікаў выпускнікоў не забывацца пра сваю парафію, свой касцёл, дзе іх заўсёды будуць чакаць.

Напрыканцы Імшы ксёндз Мікалай падзякаваў выпускнікам, іх настаўнікам і бацькам за тое, што яны прыйшлі ў гэты дзень у касцёл. Пасля заканчэння Эўхарыстыі святары Мікалай Ціхановіч і Іван Кароткін блаславілі выпускнікоў.



# на каталіцкім фэсце

## Жывое кола вакол касцёла

Перад заканчэннем Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, вернікі разам са святарамі памаліліся Літаніяй да святога Антонія. Пасля адбылася працэсія вакол касцёла, у якой прынялі ўдзел усе вернікі. Людзей было так шмат, што калі апошнія толькі выходзілі з касцёла, то пачатак працэсіі ўжо падыходзіў да яго з іншага боку. Атрымоўвалася, што касцёл адначасова быў апаясаны жывым колам з людзей.

Закончылася працэсія спевам гімна "Цябе, Бога, праслаўляем".

## Канцэрт у храме

Пасля заканчэння святой Імшы сам фэст не закончыўся. Удзельнікаў свята чакаў святочны канцэрт і пачастунак. Усё гэта павінна было адбыцца на свежым паветры перад парафіяльным домам. Але надвор'е ўнесла свае праўкі. Пасля заканчэння Імшы пайшоў дождж, і таму канцэртная праграма таксама прайшла ў храме.

Таму гурт "Рэха", які прыехаў на фэст, выступаў перад вернікамі ў святыні. Як адзначыў саліст гурта Андрусь Такінданг: *"Вядома, дождж крыху нам перашкодзіў, бо ў касцёле мы можам граць не ўвесь свой рэпертуар, ды і моладзь не можа патанчыць, але мы ўсё роўна ўдзячны пану Богу за магчымасць выступіць."*

Таксама перад вернікамі выступілі дудары Юрась Панкевіч і Віталь Воранаў. Спадар Віталь распавёў пра гісторыю гэтага музычнага інструмента, які быў раней вельмі распаўсюджаным у нашай мясцовасці. Зараз традыцыя перарвалася, але апошнія гады назіраецца адраджэнне дуды.

*"Мая мара – зрабіць у Глыбокім фэст дудароў. А пакуль мы выступім у Ліпені на Вішнёвым фэсце ў Глыбокім, куды ўсіх вас запрашаем,"* – звярнуўся Віталь Воранаў да ўдзельнікаў фэсту.

Дарэчы, з-за дажджу пачастунак таксама адбыўся ў касцёле. Як адзначыў ксёндз Раман Мурзіч: *"Вядома, касцёл – гэта месца малітвы, але касцёл – гэта таксама жывыя людзі. Таму па маёму запрашэнню прыехалі музыкі, якія таксама нам прыносяць радасць сваімі талентамі"*.

На ўрачыстасці прысутнічала шмат моладзі. Шмат хто з маладых людзей хутка пакіне гэтыя мясціны, каб паехаць вучыцца або працаваць. Але ёсць упэўненасць, што штогод яны будуць вяртацца ў Параф'янава, каб прыняць удзел у фэсце ў гонар святога Антонія.







# Піяр беларускіх эколагаў за кошт Касцёла?

**У Мінску эколагі пратэстуюць супраць узвядзення касцёла, бо на будаўнічай пляцоўцы неабходна выразаць дрэвы. Сюжэт пра гэта паказаў тэлеканал "БелСат".**

**Зміцер Лупач**

У сюжэце распавядаецца пра акцыю пратэсту, якую арганізавалі прадстаўнікі грамадскай арганізацыі "Экадом" у Мінску супраць высякання дрэў пад пляцоўку для будаўніцтва касцёла. Эколагі сцвярджаюць, што высяканне гэтых дрэў пагоршыць экалагічную сітуацыю ў наваколлі, таму, паводле іх слоў, каталіцкая супольнасць павінна знайсці сабе іншае месца для будаўніцтва.

"Каталіцкі Веснік" папрасіў пракаментаваць гэту сітуацыю арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча – Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага і старшыню Грамадскага аб'яднання "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры" Антона Астаповіча.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў: *"Мы папрасілі гэты пляц, і ён нам быў выдзелены. Пры чым тут Касцёл? І наогул, мы пасадзім больш дрэў, чым будзе ссечана"*. Ён таксама паведаміў, што заўсёды тэрыторыя вакол касцёла ці царквы добраўпарадкоўваецца, і жыхары ў выніку будуць задаволеныя, што будуць мець вакол сябе прыгожае месца.

Антон Астаповіч таксама не бачыць тут праблемы. *"Згодна з Генеральным планам 2010 года,* – сцвярджае ён, – *гэта тэрыторыя вызначана пад забудову і не лічыцца зялёнай зонай. Таму рана ці позна тут з'явіцца нейкі аб'ект"*. І калі тут не будзе касцёла, то будуць або жылыя дамы, або гандлёвы цэнтр, ці нешта яшчэ. Ён таксама адзначыў, што на дадзенай тэрыторыі расцуць у асноўным таполі, а гэтыя дрэвы не прынята садзіць у горадзе. Касцёл жа, паводле сп. Астаповіча, пры добраўпарадкаванні садзіць каштоўныя пароды дрэў, і ў выніку экалогія на гэтым месцы толькі палепшыцца. Таму спадар Антон лічыць, што *"...даўно пра эколагаў не ўзгадвалі, і ім спатрэбіўся нейкі піяр"*. А з Касцёлам змагацца прасцей: гэта недзяржаўная ўстанова, і ніхто за яго асабліва заступацца не будзе, а нейкія актывісты зробяць на гэтым змаганні сабе імя.

Варта адзначыць, што выдзяленне зямлі і падрыхтоўка дакументаў – справа не аднаго года, і прадстаўнікі экалагічнай арганізацыі павінны гэта добра ведаць. Таму яны крывадушнічаюць, калі раяць каталіцкай абшчыне пашукаць іншае месца для пабудовы касцёла. Хочацца спадзявацца, што Касцёлу і грамадскасці ўдасца знайсці паразуменне і гэтая праблема вырашыцца.

# Помста касінераў

**Напісана паводле рэальных падзей на тэрыторыі былога Свянцянскага павета.**

**Зміцер Лупач**

I

Крыж на пагорку стаяў даўно. Вяскоўцы нават і не памяталі, калі хто яго тут паставіў. У 1930 годзе польскія ўлады крыж замянілі на новы і пад ім змясцілі прыгожую мармуровую шыльду. Там было пазначана, што тут ляжаць героі-паўстанцы, якія палеглі за свабоду Айчыны. Гэта было зроблена ў стагадовы юбілей Лістападаўскага паўстання.

Цётка Гелена, якая жыла непадалёк, успамінала, што два разы на год яна разам з аднакласнікамі наведвала гэтае месца. Прыводзіла іх сюды настаўніца са школы, якая была ў мястэчку, што за тры кіламетры адсюль. Рабілася гэта 3 мая, у Дзень Канстытуцыі, і 11 лістапада, у Дзень Незалежнасці польскай дзяржавы.

Настаўніца распавядала пра геройскіх хлопцаў-касінераў, што ваявалі за тое, каб адрадзіць Рэч Паспалітую. Летам 1831 года яны спрабавалі захапіць нават Вільню, але не ставала сілаў. Паўстанне было жорстка задушана царскімі ўладамі. Але гераічныя ахвяры з боку тых маладых хлопцаў не былі дарэмныя: у 1918 годзе польская дзяржава адрадзілася.

Дзяўчатам асабліва запомніліся расповяды настаўніцы пра гераічную дзяўчыну – Эмілію Плятэр, якая разам з мужчынамі ваявала супраць царскіх войскаў. Прычым не проста ваявала, але была ў іх за камандзіра. Сам вялікі паэт Адам Міцкевіч прысвяціў ёй паэму, выява гераіні змяшчалася на дваццацізлотавай купюры. І хаця яна ваявала не зусім у гэтых мясцінах, але пра яе заўсёды ўзгадвалі, калі прыходзілі на паўстанцкую магілу.

Апошні раз магілу ўрачыста наведалі 3 мая 1939 года, а потым пачалася вайна з немцамі, пазней на гэтыя землі прыйшлі Саветы, пасля іх – немцы, пасля зноў Саветы... Усе гэтыя змены ўладаў крыж разам з плітой перажыў, людзі магілу даглядалі, хоць і прыходзілі сюды ўпотай ад новых уладаў.

II

Але ў другой палове 50-х гадоў шыльда трапілася на вочы мясцоваму начальству, а менавіта кіраўніку партыйнай ячэйкі калгаса, які быў утвораны пасля вайны. Маўляў, нагадвае яна мясцовым пра польскія часы, ды і займае магіла самы цэнтр лапіка зямлі, які варта абараць і засеяць збожжам.

Мармуровую пліту зачапілі тросам за трактар і завалаклі за паўтара кіламетра да месца, дзе будавалася новая стайня. Там яе ўмуравалі ў падмурак гэтай стайні. Знішчаны быў і крыж. А трактарысту Пётру, што цягнуў гэтую пліту, было загадана зачапіць плугі і абараць поле, на якім знаходзілася магіла.

Супраць начальства не пойдзеш, часы тады былі не тыя... Зачапіў Пётра плугі і паехаў араць. І калі пачаў ён рабіць на глебе склад, зачапілі яго плугі чалавечыя косці і расцягнулі іх аж да балота, што было ўнізе.

Спыніў Пётра трактар, паказаў гэта жонцы, бо іх хата стаяла непадалёк ад гэтага месца. Тая сказала, маўляў, як хочуць, хай загадваюць, а ты не едзь, грэх гэта. "Дый я і не збіраюся", – адказаў ёй муж. Разам з жонкай і прычэпшчыкам яны сабралі гэтыя косці і закапалі на тым месцы, дзе стаяў крыж. А начальству трактарыст сказаў: "Хоць страляйце, не паеду туды араць!"

Трактарыстаў тады было не так шмат, шукаць іншага не сталі, поле было невялікае, і начальства махнула на яго рукой. Халера з ім, галоўнае, пліту і крыж прыбралі, народу не будзе куды хадзіць з кветкамі і хутка ўсе пра гэтую магілу забудуцца.

III

Прайшло яшчэ дваццаць гадоў. І трапілася гэтае поле на вочы галоўнаму аграному Івану Пятровічу, што быў прысланы ў калгас аднекуль з усходу рэспублікі. Мясцовыя называлі такіх "васточнікі". Яго абурыла, як гэта такі кусок поля ляжыць закінуты. Нехта з мясцовых нагадаў яму, што тут жа магілы. "Якія магілы, тым больш польскіх эксплуататараў, ужо зараз сорак гадоў, як палякаў прагналі! Заўтра ж абараць!" – загадаў ён.

За тыя дваццаць гадоў, што мінулі ад першай спробы абараць гэтае месца, вырасла цэлае камсамольскае пакаленне. Таму ахвотных выканаць загад шукаць доўга не давялося. Поле абаралі, а людскія косці былі расцягнутыя паўсюль.

"Гэта вялікі грэх, будзе за гэта Божая кара", ¬ казалі старэйшыя. Моладзь з іх пасміхалася, маўляў, што могуць з кім зрабіць гэтыя польскія косці. Але людзі старэйшага веку стаялі на сваім: "Не пройдзе гэта так. Ды й якія гэта польскія косці, тут жа ваявалі нашы мясцовыя людзі".

Пакуль нічога не здарылася, поле засеялі нейкім збожжам, а аграном разам з жонкай і трыма сынамі працягваў жыць у мястэчку. І жыць нядрэнна! Калгас пабудаваў яму шыкоўны дом, ды й абстаўлены ён быў багацей за іншых местачкоўцаў. Нават два вялікія тэлевізары ў хаце стаялі, што ў тыя часы лічылася вялікай раскошай. І пра той выпадак з магілай паступова пачалі забывацца.

IV

Прайшло яшчэ амаль дзесяць гадоў, і на сям'ю Івана Пятровіча з нічога ніякага адно за адным сталі сыпацца розныя няшчасці. Спачатку ў яго згарэў дом. Здарыўся пажар у 1987 годзе а 6-й гадзіне раніцы з невядома якой прычыны. Дом гарэў зверху, з даха, і нагадваў сабой вялікую свечку. Нехта адразу паспеў заўважыць: "Гэта свечка па тых людзях, чые косці патрывожылі".

Паколькі дом гарэў зверху, то суседзі паспелі вынесці з яго шмат рэчаў. Людзі змаглі на свае вочы пераканацца, як заможна жыў Іван Пятровіч. Чаго тут толькі не было: і футры, і касцюмы, і розная бытавая тэхніка. "А што ж, калгасную бульбу штогод здаваў, як сваю", – казалі местачкоўцы.

Пасля пажару аграном пераехаў у іншую гаспадарку, але прабыў там нядоўга – не спрацаваўся з кіраўніком. Быў ён гультаяваты, а старшыня такіх не любіў.

Але гэта ніколькі не пашкодзіла кар'еры Івана Пятровіча: ён стаў старшынёй калгаса недзе на ўсходзе вобласці – ці то ў Чашніцкім, ці ў Сенненскім раёне. Тут яго "таленты" яшчэ больш раскрыліся.

Прыйшлі 90-я гады, распачалася прыватызацыя ці, як у народзе казалі, прыхватызацыя. Паколькі пасада дазваляла, то Іван Пятровіч цягнуў з калгаса ўсё, што мог. За пару гадоў нават кватэру ў Віцебску купіў і змог туды пераехаць, заняўшы нейкую высокую пасаду.

V

Але ў гэтай кватэры радаваўся жыццю ён нядоўга. Спачатку ў п'янай бойцы загінуў яго старэйшы сын Сяргей. Не паспелі яны з жонкай перажыць смерць старэйшага сына, як у аварыі загінуў сярэдні сын Андрэй. Іван Пятровіч стаў часцей прыкладвацца да чаркі, стаў больш нервовым.

А яшчэ праз некалькі гадоў памёр малодшы Коля. У яго проста на працы спынілася сэрца. Ніхто з яго сыноў не дажыў нават да дваццаці пяці гадоў.

Жонка не вытрымала такога ўдару і праз некаторы час выкінулася з акна з шостага паверха. Іван Пятровіч стаў яшчэ больш выпіваць. І аднойчы, будучы на добрым падпітку, зачапіў за люстру пятлю...

VI

У мястэчку неяк даведаліся пра лёс Івана Пятровіча і яго сям'і. Усе адразу прыгадалі апаганеныя магілы. Дарэчы, ад пачатку 90-х гадоў гэта поле зноў закінулі і ніхто яго не араў.

Ужо ў новым стагоддзі мясцовы фермер Уладзімір разам з сынам і сябрамі паставілі там невялікі помнік. Уладзімір спадзяецца, што з часам там будзе ўсталяваны годны помнік і шыльда на ім будзе ганаровая, як і раней. І больш ужо нікому не прыйдзе ў галаву гэта разбураць.



**Касінеры падчас паўстання 1863–64 гадоў.** *Фота невядомага аўтара*

# Абвяржэнне міфа,

## або Хто прыдумаў “цёмнае Сярэднявечча?”

Частка II

**Працягваем нашыя разважанні пра Сярэднявечча – перыяд, што ў гісторыі чалавецтва пазначыўся як цемрашальны. Канешне, як было заўважана раней, цёмным яго назвалі пазней, у часы Асветы, як супрацьстаянне ў дачыненні да Каталіцкага Касцёла, каторы менавіта ў перыяд Сярэднявечча меў асаблівы ўплыў на розныя пласты насельніцтва тагачаснай Еўропы.**

**а. Віталь Сапега**, *дамініканін*



У гэтым артыкуле далей паспрабуем рэабілітавацьназваны гістарычны перыяд. У мінулы раз была гаворка пра адукацыю і музыку. А зараз узгадаем пра мастацтва і архітэктуру, манаства, а таксама пра асаблівую з’яву сярэдніх вякоў – рыцарства.

### Роспіс касцёлаў

Мастацтва ў сярэднявечнай Еўропе мела шчыльную сувязь з Касцёлам і яго навучаннем. У мастацтве Сярэднявечча не ўжываліся старажытныя грэцкія каноны з іх ідэальнымі чалавечымі формамі. Звярнула яно ўвагу перад усім на таямніцу Валадарства Нябеснага, на прыгажосць Бога, на кароткачасовасць зямнога жыцця, таксама на тое, што перашкаджае чалавеку ў яго імкненні да Бога (грахі, жарсці, канфармізм). Варта заўважыць, што няшмат было адукаваных у тыя часы людзей, мала хто мог чытаць. Таму якраз паявілася ідэя катэхізацыі праз хрaмавыя выявы. Гэта адбылося як ва ўсходняй царкве (візантыйскай), так і ў яе заходняй частцы. У Кіеве ці ў Вялікім Ноўгарадзе ў першых храмах усходніх славян дагэтуль можна назіраць біблійныя насценныя выявы. Не ўсе, напэўна, ведаюць, што ў заходнім Касцёле храмы, пабудаваныя ў раманскім стылі, таксама былі распісаныя цалкам. Толькі пазней, пад націскам ісламу ці пратэстантызму, ці наогул праз уплыў часу храмавыя фрэскі былі ў большасці знішчаныя.

### Гатычныя катэдры

Іншае дасягненне Сярэднявечча – гэта гатычныя катэдры. Нават сёння сучасны чалавек, паглядаючы на гэтыя прыгожыя храмы, задае сабе пытанне: як у той час, амаль восемсот гадоў таму, атрымалася пабудаваць такія велічныя і прыгожыя сакральныя будынкі? Канешне, трэба прызнаць, што ў будове гатычных катэдраў прымалі ўдзел амаль усе жыхары горада і іншых навакольных населеных пунктаў. Дакладна як у Егіпце, дзе насельнікі, каб затрымаць жыццядайную ваду Ніла, будуючы тым самым гідратэхнічныя канструкцыі і каналы, павінны былі раз на год усе разам выйсці на працу. Гэта была праца супольная і публічная. І таксама ў большасці непрымусовая. Таму што кожны дарослы жыхар Егіпта ўсведамляў сабе, што калі ваду не затрымаць, то прыйдзе голад. Адсюль, зрэшты, і з’явілася нам усім вядомае слова “літургія” – публічная, супольная справа. Таксама і будаванне гатычных катэдраў мела публічны, супольны характар. І вельмі часта будову пачынала адно пакаленне, а завяршала наступнае. Ніхто нікуды не спяшаўся. Менавіта велічны гатычны стыль прыпамінаў чалавеку Сярэднявечча пра веліч Бога і крохкасць, часовасць чалавека. Гэты быў заклік да пакоры і службы.

### З’яўленне новых ордэнаў

Варта таксама ўзгадаць пра з’яўленне так званых мендыканцкіх (убогіх) манаскіх ордэнаў, якія, зрэшты, перавярнулі хаду рэлігійнага духоўнага жыцця ў Еўропе. Штуршком для паяўлення новай формы манаскага жыцця (францішканцы і дамініканцы) стаў рэлігійна-духоўны крызіс, які ўзнік у хрысціянскай Еўропе. Крызіс заключаўся не ў тым, што людзі адышлі ад Бога. Варта ведаць, што да Французскай рэвалюцыі 1782 года не было такога слова, як “атэіст”. На працягу вякоў з’яўляліся розныя ерасі, людзі памыляліся, блукалі, здраджвалі, але заўсёды прымалі існаванне Бога. Крызіс у рэлігійным жыцці XI –XII стагоддзяў праявіўся ў з’яўленні ў Еўропе двух найбуйнейшых ерасей – катараў і альбігойцаў. Гэтыя ерасі мелі ў сабе яшчэ ранейшы старажытны вірус. Выраслі яны з маніхеізму, з яго агідаю да ўсяго цялеснага, з дрэнным разуменнем аскетызму і ўбоства. Адна з прычын рэлігійнага крызісу і папулярнасці сектаў заключалася ў слабай падрыхтоўцы духавенства (у той час не было семінарыяў, кандыдаты на святарства звычайна рыхтаваліся ў сваёй парафіі), тым больш што слова Божае мелі права прапаведаваць выключна біскупы, якія, дарэчы, зрэдку знаходзіліся на тэрыторыі сваіх дыяцэзій. Адным словам, постаці легендарных харызматычных святых Францішка і Дамініка паўплывалі не толькі на манаскі рух, але і на ўвесь тагачасны Касцёл, уратоўваючы яго тым самым ад заняпаду. Св. Францішак сваёй евангелічнай пастатай, Св. Дамінік больш грунтоўным і глыбокім прапаведаваннем Слова Божага.

Новыя вандроўныя манахі адмовіліся ў пэўным сэнсе ад выгоднага жыцця, ад зямлі, якая давала сталы даход, ад больш-менш усталяванага modus vivendi – парадку дня. Пазбыліся яны тым самым упэўненасці ў будучым, але адчулі сябе больш свабоднымі і мабільнымі, тым самым безумоўна даваяраючыся Богу. Такім чынам, ужо не людзі вандравалі ў кляштары, шукаючы парады і заступніцкай малітвы, а манахі самі вышлі ў кірунку сваёй паствы. Гэта быў новы подых для Каталіцкага Касцёла. Трэба заўважыць, што такі феномен у манаскім жыцці адбыўся толькі ў Заходнім Касцёле і менавіта ў Сярэднявеччы.

### Рыцары

Варта таксама на фоне Сярэднявечча ўзгадаць пра такую з’яву, як рыцарская культура. Рыцары – гэта напачатку вольныя жаўнеры, якія наймаліся феадаламі для абароны яго маёмасці. Звычайна яны былі загартаванымі ў баях людзьмі. Менавіта ў “цемрашальскі” век з цягам часу выпрацаваўся так званы рыцарскі кодэкс: павага да жанчыны, абарона слабых і пакрыўджаных. Рыцары павінны былі імкнуцца да ўсё большай справядлівасці, міласэрнасці і высакароднасці. Кандыдат на рыцара перад рытуалам павінен быў абавязкова прыступіць да споведзі. А сама прысяга адбывалася падчас св. Імшы.

Варта заўважыць, што так званыя мілітарныя каталіцкія ордэны, як тампліеры, тэўтонцы, складаліся ў большасці з рыцараў-манахаў. Усе мы чыталі альбо чулі пра Дон Кіхота Ламанчаскага, персанажа-рыцара, якога прыдумаў іспанскі пісьменнік Мігель дэ Сэрвантэс. Памятаем, што амаль усе бачылі ў Дон Кіхоце нейкага вар’ята і недацёпу. Смешна ўспрымаўся чалавек у часы Рэнесансу, які імкнуўся да справядлівасці і міласэрнасці. Менавіта гэта была туга аўтара аб мінулым высакародным рыцарстве, якое сышло беспаваротна.

Такое было Сярэднявечча – час нялёгкі, але разам з тым эпоха ласкі і высокай культуры. І, хутчэй за ўсё, не было б далейшых дасягненняў чалавецтва, калі б у пэўны перыяд не быў створаны трывалы канкрэтны падмурак для будучых пакаленняў.

Каталіцкі ВЕСНІК №6(63) чэрвень 2016 г.

# Кс. Тадэвуш Вышынскі адзначае 60 гадоў святарства



## Эксклюзіўнае інтэрв'ю для "Каталіцкага Весніка"

### Пра сям'ю і дзяцінства

– Я нарадзіўся на Беласточчыне ў 1930 годзе. Гісторыю нашай сям'і перакрэсліла Другая сусветная вайна. Тата быў арыштаваны і не вярнуўся з турмы. Хутчэй за ўсё яго расстралялі. А мяне з мамай, братам і сястрой вывезлі ў Сібір. Мне тады было 8 гадоў.

Нас вывезлі ў Омскую вобласць – на мяжы з Паўночным Казахстанам. Умовы жыцця былі вельмі складанымі, але дзякуючы працавітасці мамы нам удалося пазней нават прыдбаць свой дом. Да нас вельмі добра адносіліся ўкраінскія перасяленцы. Асабліва дапамагла сям'я Кісель з Украіны. Праз нейкі час старэйшага брата мабілізавалі ў войска – у дывізію імя Касцюшкі. У Прыбалтыцы ён быў паранены, але прымаў удзел у штурме Берліна. Сястра, дзякуй Богу, жыве дагэтуль. У Сібіры мне давялося папрацаваць на будаўніцтве, вырабляючы цэглу для зямлянак, і пастухом. Вяртанне на Радзіму, у Польшчу, адбылося нават пад матчыным прымусам, таму што я ўжо прывык да Сібіры, і яна стала маім домам. Вельмі цёпла ўспамінаю той перыяд, калі я займеў сяброў і навучыўся рускай мове.

### Пакліканне і манаства

– Калі я вярнуўся ў Польшчу, паўстала пытанне пра маю далейшую адукацыю. Паколькі грошай мы шмат не мелі, то вырашылі накіраваць мяне ў ніжэйшую семінарыю айцоў-місіянераў у Кракаве, у якой навучанне было бясплатным. Я яе паспяхова скончыў, хоць і меў напачатку складанасці з вывучэннем польскай мовы. Пакліканне ж да святарства адчуў у старэйшых класах. А выбар манаства быў абумоўлены кантактам з айцамі-місіянерамі, у чыю супольнасць я і ўступіў. Будучы святаром ужо, давялося папрацаваць у Францыі, Італіі, у Гданьску і Варшаве.

Мой вопыт жыцця ў атэістычным асяроддзі аказаўся запатрабаваны ў Ватыкане. Паўтара года я займаўся аналітыкай савецкага, нямецкага і польскага атэістычнага друку. Апостальскую Сталіцу цікавіла, што думаюць атэісты і чым жывуць атэістычныя грамадствы. Аднак такая мая праца перастала быць запатрабаванай з надыходам "перабудовы" ў СССР па той простай прычыне, што атэістычныя часопісы спынілі свой выхад.

### Пра рэлігійнасць беларускага грамадства ў 90-я і сёння

– Я добра памятаю свой прыезд у Гродна ў 1992 годзе. Мяне вельмі цікавіла магчымасць стаць ля вытокаў першай беларускай семінарыі ў постсавецкі перыяд. Гэта было нешта зусім новае для мяне. Акрамя таго, мае веды па тэалогіі і рускай мове былі вельмі запатрабаванымі. Прыехаўшы ў Беларусь, я захапіўся непадробнай рэлігійнасцю людзей. Так, яна была часта вельмі простай, абапіралася ў многім толькі на традыцыю, што цалкам зразумела, улічваючы той агромністы пераслед, які перажыў Касцёл у Беларусі.

Але разам з тым такая рэлігійнасць была вельмі шчырай і кранальна наіўнай у добрым сэнсе гэтага слова. Часам нават дзіцячай. Сёння, калі прайшло ўжо 25 гадоў ад адраджэння Касцёла ў Беларусі, безумоўна, я назіраю перамены. Рэлігійнасць людзей стала больш асэнсаванай, акрэсленай і тэалагічна правільнай. Гэтаму, несумненна, спрыяюць і навучальныя ўстановы, вялікая праца па катэхізацыі, прапаведніцкая дзейнасць святароў, а таксама перыядычны каталіцкі друк. Гэта ўсё цудоўна, але мяне яшчэ радуе, што беларускія вернікі не страцілі жывасці сваёй веры. Яна не схавалася за шматтомнікі трактатаў і абавязковасць нормаў. Гэта па-ранейшаму прага душы і жывы пошук Праўды.

### Пра музыку і малітоўнікі

– Канешне, музыка – гэта не проста праца. Гэта нешта большае для мяне. Я з задавальненнем праводжу і сёння заняткі па спевах з семінарыстамі. Столькі радасці, калі гэтыя маладыя хлопцы нотка па нотцы карпатліва разбіраюць грыгарыянскі спеў. Яны часам самі нават мне прыпамінаюць: "Ойча, а каторай гадзіне сустракаемся?" Я лічу, што не бывае чалавека, якога нельга навучыць спяваць. Калі ў нас абодвух дастаткова цярплівасці і часу, то мы зможам навучыцца многаму. Я хацеў бы таксама крыху распавесці пра беларускі спеўнік, які распрацаваны цягам гэтых гадоў у семінарыі. Ён ужо амаль гатовы да выдання! Засталося ўнесці мінімальныя праўкі ў тэкст – і ўсё! Ведаеце, гэта мая мара, гэта маё самае гарачае жаданне: патрымаць у руках выдадзены і зацверджаны Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў Беларусі беларускі спеўнік для ўсяго Касцёла ў Беларусі. Тым больш, што патрэба ў такім спеўніку ў парафіях надзвычай вялікая.

### Пра беларускую мову і перакладчыцкую дзейнасць

– Мне давялося прыняць удзел у падрыхтоўцы да друку беларускага Імшала. Галоўнай задачай стала дапасаванне грыгарыянскага спеву да беларускай мовы. Праца была калектыўнай. Мне давялося здзейсніць 33 падарожжы на розныя сустрэчы. Але не гэтае было самым цяжкім. Уявіце сабе: аднойчы падчас спаткання мне давялося пачуць тэзіс: "Па-беларуску немагчыма заспяваць грыгарыянскі спеў". Але гэта няпраўда! Беларуская мова выдатна кладзецца на грыгарыянскія мелодыі! Наступным разам мне давялося нават перад усімі прысутнымі сляваць грыгарыянскія мелодыі па-беларуску, каб даказаць усю абсурднасць такога сцвярджэння.

Калі мы ўжо закранулі тэму мовы, то дазвольце мне падкрэсліць, што я вельмі шаную беларускі народ, яго культуру і традыцыі. Такой талерантнасці я навучыўся ў Францыі. Працуючы сярод французаў, я заўважыў, што нашая моўная рознасць і рознасць паходжання не робіць ніякіх перашкодаў паміж намі. Мы выдатна разумеліся! Мне вельмі хочацца, каб Беларусь дасягнула самых высокіх вяршынь у сваім развіцці ў агульнаграмадскім сэнсе і ў сэнсе духоўным.

### Пра маладых святароў і сучасныя пагрозы

– Калі казаць пра пагрозы для святарства, то хачу падкрэсліць, што ўзрост не адыгрывае тут вялікай ролі. Такія самыя выклікі пераважна стаяць як перад святарамі старэйшага веку, так і перад новапрэзбітарамі. Мне падаецца, што ў кантэксце гэтага пытання варта ўзгадаць пра formatio continua – няспынную падрыхтоўку. Вельмі важна, каб святар не забываўся пра малітву. Малітва – гэта аснова ўсяго. Гэта падмурак. Лічу таксама, што і ў пытанні крызісу пакліканняў неабходна звярнуць увагу менавіта на малітву. Трэба шмат маліцца пра пакліканні і шмат маліцца за святароў!

Адначасова хачу сказаць, што мяне як выхавальніка вельмі цешаць душпастырскія поспехі маладых святароў. Аднойчы хтосьці з вернікаў мне сказаў пра маладога святара, які ў парафіі замяніў на пасадзе ксяндза з Польшчы: "Ойча, які ў нас выдатны святар! Як мы радуемся, што ён у нас працуе!" Ведаеце, такія словы для мяне – найвышэйшая ўзнагарода за маю выкладчыцкую і выхавальніцкую дзейнасць.

### Пра час, лекцыі і семінарыстаў

– Так, на самай справе, час – гэта сапраўдная каштоўнасць. Чаму? Таму што, я лічу, Бог дае нам унікальны шанс пазнаць Самога Сябе. Але каб спазнаваць Бога, трэба над гэтым шмат напрацаваць. Шукаючы Праўду, нельга гэта зрабіць за адно імгненне. Калі мы сумленна падыходзім да такога пошуку, то патрабуем шмат часу. Таму ў семінарыі я, бывала, выкарыстоўваў такі незвычайны падыход, каб прыгадаць семінарыстам пра каштоўнасць часу. (*Маюцца на ўвазе выпадкі, калі падчас абавязковага студыюму – часу, прысвечанага для самастойнай навукі, – калі некаторыя семінарысты не захоўвалі належнай цішыні і парадку, кс. Тадэвуш заходзіў у пакой клерыкаў з вядром і казаў ім: "Хто мае вольны час? Пазычце мне, калі ласка"*, – заўвага аўтара).

Калі ж казаць пра нейкія прыкметы, па якіх можна зразумець, гатовы семінарыст стаць святаром ці не, то, думаю, тут дарэчы ўспомніць пра шчырасць. Вядома, што выхаванцы розныя. З рознымі здольнасцямі, характарамі і жыццёвым асяроддзем, з якога выйшлі. Аднак важна, каб кандыдат на святарства быў шчырым перад самім сабой і перад Богам. Нават калі існуюць падзенні, недасканаласці, памылкі і няўдачы, важна, каб кандыдат на святарства не баяўся знаходзіцца ў праўдзе. Таму што Бог ёсць Праўда.

### Ад рэдакцыі.

З нагоды 60-годдзя святарскага служэння кс. Тадэвуша Вышынскага рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" жадае яму шматлікіх Божых ласкаў! А таксама дзякуе за тую выдатную святарскую дзейнасць, якую ён прысвяціў Касцёлу ў Беларусі.

***кс. Віктар Місевіч**, тэкст*
***Зміцер Лупач**, фота*

**Ксёндз Тадэвуш Вышынскі**

■ Нарадзіўся 26 красавіка 1930 г.

■ Асноўную філасофскую і тэалагічную адукацыю атрымаў у Тэалагічным інстытуце ксяндзоў-місіянераў у Кракаве, спецыяльную – у Варшаве, Любліне і Парыжы.

■ Святарскія пасвячэнні атрымаў 24 чэрвеня 1956 г. з рук біскупа Станіслава Распонда ў Кракаве.

■ З 1992 г. працуе ў Гродзенскай дыяцэзіі.

■ На працягу ўсіх гэтых гадоў выкладаў дагматычную тэалогію і спевы ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

■ Удзельнічае ў сходах дыяцэзіі і мітраполіі, на якіх рыхтуюцца навуковыя і душпастырскія дапаможнікі, літургічныя кнігі.

# Якое служэнне ў Касцёле Вы несяце?

**Кожны вернік нейкім чынам клапоціцца пра Касцёл. А якое служэнне ў Касцёле несяце Вы?**

***Гутарыла Ірына Грэйць***



**Андрэй Лугін:**



– Я з'яўляюся салістам хрысціянскага музычнага гурта "Laudans". Стараюся ўсміхацца людзям. Бачыць у кожным вобраз і падабенства нашага Творцы. Імкнуся да таго, каб утвараць з людзьмі адну гармонію, адзін музычны твор, які падабалася б слухаць Богу. Кожны гук, які я спяваю ці граю, кожнае слова, якое кажу, кожную песню я прысвячаю Богу і людзям. Думаю, што кожны чалавек можа прыносіць у Касцёл штосьці сваё. Бо кожнаму Бог даў нейкі талент ці магчымасць.



**Дыякан Аляксей Варанко:**



– Хочацца пачаць з простага, з аднаго боку, а з другога боку, складанага: са сваёй прысутнасці ў Царкве як чалавека, як бацькі, як мужа. Пэўна, з Божай дапамогай у мяне атрымліваецца быць дастаткова добрым мужам, бацькам і чалавекам. З гэтым звязаны, канешне, і цяжкасці, і барацьба, і радасць. Што адносна больш канкрэтнага служэння, то я з'яўляюся дыяканам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Разам з жонкай Святланай час ад часу як сямейныя кансультанты сустракаемся з сужэнскімі парамі, дапамагаем у падрыхтоўцы да шлюбу. Распаўсюджваем хрысціянскія сямейныя каштоўнасці ў свецкіх навучальных установах у якасці лектараў. Перажываць шчасце ад жыцця з Богам з'яўляецца для мяне галоўным заданнем, радасцю і служэннем.



**Марк Найдзіч SDB:**

– Мы павінны клапаціцца не толькі пра Касцёл, але таксама пра ўвесь свет. Пра кожнага чалавека, які патрабуе любові. Бо любоў не раздаецца тым, хто заслугоўвае яе, але тым, хто яе патрабуе. Мне здаецца, што любові яшчэ больш патрабуюць тыя людзі, якія не ў Касцёле. Святыня – не зачынены гатэль. У ёй заўсёды ёсць месца для кожнага.

Я салезіянец кс. Яна Боска. Вучуся ў Славакіі на факультэце хрысціянскай філасофіі і таксама на факультэце сацыяльнай працы з дзецьмі і моладдзю. Тры гады наведваю хлопцаў, якія знаходзяцца ў турме для няпоўнагадовых. Таксама вяду розныя спатканні з моладдзю ў нашым салезіянскім інтэрнаце і араторыі. Хочацца з малітвай і жаданнем адчыняць дзверы нашага Касцёла, служачы кожнаму.



**Людміла Тумашэвіч:**



– У Касцёл я прыходжу з маленства, таму маё служэнне пачалося рана. Пасля першай Святой Камуніі я адкрыла для сябе, што магу служыць і славіць Пана сваім спевам. Калі паступіла ва ўніверсітэт і пераехала ў Віцебск, то апынулася ў парафіі, дзе існуе файнае моладзевае душпастырства. Тут я змагла служыць таксама аніматарам на курсе Адновы ў Духу Святым, які дапамагае яго ўдзельнікам больш глыбока і асабіста пазнаёміцца са Святым Духам і Яго дарамі. І служэнне спевам не скончылася, кожную нядзелю перад моладзевай Імшой мы збіраемся з нашым хорам на рэпетыцыі і стараемся, каб наш спеў быў не проста словамі і музыкай, але сапраўднай малітвай. Акрамя гэтага, спяваю ў гурце "Talitha kum", што быў заснаваны ў прошлым годзе як евангелізацыйны праект. Апошні выступ быў прысвечаны 800-годдзю заснавання дамініканскага ордэна.

**Ларыса Канецкая:**



– Кветкі я вельмі люблю з дзяцінства. Калі жыла ў Гродне, айцец Юзаф Макарчык, які ў той час служыў у францішканскім касцёле, даручыў мне даглядаць кветкі на тэрыторыі святыні. Я некалькі гадоў іх глядзела. Потым мы пераехалі ў Мінск, зараз я належу да парафіі Яна Хрысціцеля. Мае кветкі з правага боку касцёла, там, дзе стаіць Крыж. З левага боку даглядае кветкі наша парафіянка пані Леанарда. У нас тут ружы розных колераў, аксамікі, вяргіні і шмат іншага.



**Ксёндз Антоні Грэмза:**



– Да майго самага адказнага, а таксама шчаслівага абавязку ўжо больш за 10 гадоў належыць служэнне для моладзі Гродна і Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама ўсім маладым людзям. Гэта штодзённыя сустрэчы і духоўнае кіраўніцтва супольнасцю студэнцкай і працоўнай моладзі ў Гродне. Наша супольнасць, зацверджаная дыяцэзіяльным біскупам, называецца Open. Гэта адказнасць за арганізацыю і правядзенне Дыяцэзіяльных дзён моладзі, якія ўжо 12-ы раз ладзяцца ў Гродзенскай дыяцэзіі. Да асаблівых заданняў належыць падрыхтоўка юнакоў і дзяўчат да ўдзелу ў Сусветных днях моладзі, якія адбываюцца кожныя тры гады ў розных краінах свету. Сёлета таксама рыхтуемся да ўдзелу ў XXXI Сусветных днях моладзі ў Кракаве.

Вельмі падабаецца прымаць удзел у хрысціянскіх экуменічных сустрэчах моладзі, якія арганізоўваюць браты з супольнасці Тэзэ. Душпастырскае служэнне моладзі займае галоўную частку майго жыцця і дае мне духоўны імпульс радасці і захаплення святарствам.



## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

Якое служэнне ў Касцёле несяце Вы?

- Служу малітвай: наведваю малітоўныя супольнасці, служу пры алтары – 34 адказы;
- Я духоўная асоба – 30 адказаў;
- Адказваю за музычны бок – 26 адказаў;
- Дапамагаю рамантаваць, будаваць, упрыгожваць святыню, наводзіць парадак пры касцёле – 22 адказы;
- Аказваю фінансавую падтрымку – 14 адказаў;
- З'яўляюся валанцёрам у дабрачынных касцельных рухах – 13 адказаў;
- Іншае меркаванне ў каментарах праз сацыяльныя сеткі – 8 адказаў.

**Усяго апытана 147 чалавек**



## Больш за 5,5 тыс. беларусаў выправяцца на Сусветныя дні моладзі




**Звыш 5,5 тыс. беларусаў зарэгістраваліся да ўдзелу ў Сусветных днях моладзі – фестывалі каталіцкай моладзі ўсяго свету, які ўключае і сустрэчу з Папам Рымскім.**

У гэтым годзе СДМ пройдуць у польскім Кракаве 26-31 ліпеня. Нагадаем, візы беларускія ўдзельнікі могуць атрымаць бясплатна ў візавых цэнтрах Польшчы.

Больш за ўсё на фестываль зарэгістравалася прадстаўнікоў з Польшчы (30%), Італіі (13%), Іспаніі і Францыі (па 6%). Усяго на дадзены момант колькасць зарэгістраваных удзельнікаў – амаль 600 тыс. са 185 краін, аднак у Кракаве чакаюць прыезду каля 1,5-2 млн. гасцей, паколькі большасць не праходзяць рэгістрацыю, якая адкрыта да 30 чэрвеня.

Колькасць зарэгістраваных удзельнікаў ужо стала рэкорднай (на папярэдніх фестывалі ў Мадрыдзе і Рыа-дэ-Жанейра рэгістраваліся адпаведна 420 і 355 тыс. чалавек), паведаміла агенцтва КАІ акрэдытаваным на СДМ журналістам.

Арганізатары маюць намер размяшчаць гасцей у сем'ях мясцовых католікаў, школах, іншых публічных установах.

Набажэнствы і іншыя мерапрыемствы будуць праходзіць у асноўным на польскай і англійскай мовах, але таксама і на іншых нацыянальных мовах, у тым ліку беларускай, рускай, украінскай.

Папа Францішак падчас візіту ў Польшчу наведае Кракаў, Ясную Гару (кляштар у горадзе Чэнстахова, які вядомы цудатворным абразом Божай Маці) і лагер смерці Аўшвіц, сустрэнецца з Прэзідэнтам краіны і мясцовым духавенствам. Св.Імшу для ўдзельнікаў СДМ Папа будзе цэлебраваць 31 ліпеня.

Упершыню Сусветны дзень моладзі прайшоў па ініцыятыве Папы Рымскага Яна Паўла II ў 1986 годзе ў Рыме і з таго часу адзначаецца раз на два-тры гады. Фестываль у Кракаве стане ўжо 26-м па ліку.

*katolik-gomel.by*

# Каляндар на ліпень



**2 ліпеня – урачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай.**

У апошнія гады культ Маці Божай Будслаўскай, Якую называюць Апякункай Беларусі, распаўсюдзіўся па ўсёй нашай краіне. Цэнтр святкавання – невялікая вёска на поўначы Мінскай вобласці, назва якой – Будслаў – вядомая сёння ў Беларусі і за яе межамі. Там знаходзіцца Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Будслаўскі касцёл, адзін з самых прыгожых і вялікіх на нашай зямлі, быў пабудаваны ў XVIII стагоддзі і з'яўляецца малой базылікай. Кожны год у Будслаў ідуць і едуць тысячы пілігрымаў, каб ушанаваць Найсвяцейшую Панну Марыю, папрасіць праз Яе заступніцтва асаблівых ласкаў Божых і прыняць удзел ва ўрачыстым будслаўскім фэсце.

**3 ліпеня – успамін святога Тамаша, апостала.**

Святы Тамаш, празваны Дыдым (Блізня), да паклікання ў супольнасць апосталаў быў рыбаком у Галілеі. Калі Езус у дзень уваскрасення з'явіўся апосталам, Тамаша сярод іх не было. Ён спачатку не паверыў у змёртвыхпаўстанне, а таму яго часта называюць "Тамаш, які не верыць". Падчас наступнага з'яўлення ўваскрослы Збаўца звярнуўся да Тамаша, каб той на ўласныя вочы пераканаўся, што перад ім – сам Езус, на што Тамаш усклікнуў: "Пан мой і Бог мой!" Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал накіраваўся ў місію ў Персію і Індыю, дзе, паводле падання, сустрэўся з трыма каралямі, ахрысціў іх і прызначыў біскупамі. Каля 72 г. прыняў мучаніцкую смерць у Індыі: быў забіты паганцамі мячом або дзідаю. Лічыцца апекуном горада Рыгі, а таксама архітэктараў, будаўнікоў і геолагаў. Яго заступніцтва просяць, молячыся пра шчаслівае сужэнства.

**11 ліпеня – успамін святога Бэнэдыкта, абата, апекуна Еўропы.**

Святы Бэнэдыкт – айцец манаства на хрысціянскім Захадзе – нарадзіўся каля 480 г. у Нурсіі (Паўднёвая Італія) і паходзіў з багатай сям'і. Пакінуўшы вучобу ў Рыме, стаў жыць пустэльнікам. Праз пэўны час вакол яго сабралася шмат іншых манахаў. Каля 529 г. ён разам з паплечнікамі заснаваў на поўдзень ад Рыма славуты кляштар Монтэ-Касіна. Асноўным правілам манаскага жыцця ў ім былі словы "Ora et labora" ("Маліся і працуй"), якія сталі дэвізам ордэна бэнэдыктынцаў. У Монтэ-Касіна Бэнэдыкт напісаў статут "Ordo Sancti Benedicti", які стаў асноваю для большасці манаскіх супольнасцяў Захаду. Заснаваны ім ордэн бэнэдыктынцаў на працягу стагоддзяў быў найбольш значным духоўным, культурным і навуковым асяродкам Еўропы. У 590 г. бэнэдыктынец упершыню стаў Папам. Гэта быў святы Грыгорый Вялікі – славуты касцельны рэфарматар, які пакінуў найбольш звестак пра святога Бэнэдыкта (і пазней вельмі часта на Пасадзе святога Пятра знаходзіліся менавіта бэнэдыктынцы). Святы Бэнэдыкт памёр 21 сакавіка 547 г. і быў пахаваны ў Монтэ-Касіна каля магілы сваёй сястры-блізняці святой Схаластыкі. Святы з'яўляецца апекуном Еўропы і ўсяго Захаду, а таксама настаўнікаў і школьнікаў.

## Праграма ўрачыстасцяў у Будславе 1-2 ліпеня

**Сёлетнія ўрачыстасці ў Будславе 1 і 2 ліпеня пройдуць на тэму «Надзея ў Божай міласэрнасці» і будуць прысвечаны 25-годдзю адраджэння Мінска-Магілёўскай мітраполіі.**

**1 ліпеня**

**13.00 – 17.00** – сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя а. Віктарам Бурлакам OFM
**17.00** – евангелізацыйная праграма
**18.00** – святая Імша
**20.00** – Акафіст у выкананні хору Грэка-Каталіцкай Царквы
**20.30** – марыйныя Нешпары
**21.30** – рахунак сумлення
**22.30** – музычная пастаноўка на Год Міласэрнасці
**23.30** – працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай
**24.00** – святая Імша

**2 ліпеня**

**02.00** – моладзевая праграма ў палатачным гарадку
**02.00** – святая Імша паводле грэка-каталіцкага абраду
**04.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту
**05.30** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі
**06.00** – святая Імша перад абразом Маці Божай
**08.30** – святая Імша (на польскай мове)
**10.00** – даклад з нагоды 25-годдзя Мітраполіі
**11.00** – святая Імша з удзелам папскага легата кардынала Крыстафа Шонбарна

## Удакладненне

Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" просіць прабачэння ў чытачоў за размяшчэнне недакладнай інфармацыі адносна пасвячэння віцебскай катэдры ў папярэднім нумары (№5 (62)). Асвячэнне катэдры ў Віцебску адбылося 10 кастрычніка, а 18 чэрвеня касцёл Езуса Міласэрнага атрымаў тытул катэдральнага касцёла Віцебскай дыяцэзіі.

**16 ліпеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармель (Маці Божай Шкаплернай).**

У XIV ст. на гары Кармель у Палесціне існаваў ордэн, члены якога, духоўныя сыны прарока Іллі, называлі сябе братамі Найсвяцейшай Панны Марыі. Кармеліты вялі жыццё, адданае малітве, працы і пакаянню, захоўваючы цноты чысціні, убоства і паслухмянасці. У канцы XIII стагоддзя ў сувязі з пераследаваннямі з боку мусульманаў, рэлігійнымі войнамі з туркамі і заняпадам Касцёла на Святой Зямлі законнікі былі вымушаны выехаць у Еўропу. Тут, у новым асяроддзі, перад маладомым законам узнікла пагроза роспуску. У такім цяжкім становішчы генерал закона Сымон Сток пачаў прасіць Марыю, каб Яна захавала прысвечаны Ёй закон. У адказ на шчырую малітву Марыя аб'явілася святому Сымону ў ноч з 15 на 16 ліпеня 1251 г. У акружэнні анёлаў, указваючы на шкаплер, асвяціла яго знакам сваёй Матчынай апекі, сказаўшы: *"Гэта будзе прывілей для цябе і для ўсіх кармелітаў: хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага"*. Пасля таго аб'яўлення зніклі ўсе перашкоды і закон пачаў пашырацца па ўсёй Еўропе. Праз 70 гадоў Маці Божая аб'явілася Святому Айцу Яну XXII і, пацвярджаючы папярэднія прывілеі (асаблівую апеку ў зямным жыцці і пазбаўленне ад агню пякельнага), абяцала, што кожны, хто ў момант смерці будзе мець на сабе Яе шкаплер, у першую суботу пасля смерці будзе выведзены з чыстца ў неба.

**Правільныя адказы на віктарыну са старонкі 12:**

1.А; 2. Б; 3. В; 4. В; 5. А; 6. Б; 7. Б; 8. А; 9. В; 10. В; 11. А; 12. А; 13. А; 14. Б; 15. В; 16. Б; 17. А; 18. В; 19. В; 20. А.

**23 ліпеня – успамін святой Брыгіты, законніцы, апякункі Еўропы.**

Брыгіта нарадзілася ў 1303 годзе непадалёку ад Упсалы (Швецыя). У 13 гадоў яна выйшла замуж. У гэтым сужэнстве нарадзілася васьмёра дзяцей, сярод якіх – святая Кацярына Шведская. Пасля пілігрымкі ў Сант'яга-дэ-Кампастэла муж Брыгіты ўступіў у кляштар, а пасля яго смерці і сама яна пажадала цалкам прысвяціць сябе Богу. Брыгіта мела багатае духоўнае жыццё і шмат містычных візій. Атрымаўшы ў падарунак ад караля надзел зямлі, яна заснавала на ім кляштар для новага закона – брыгітак. У 1370 г., праз дваццаць гадоў пасля заснавання, ордэн быў зацверджаны Папам і існуе да сённяшняга часу. Брыгіта памерла ў Рыме 23 ліпеня 1373 г., адразу пасля пілігрымкі ў Святую Зямлю. Яна – апякунка пілігрымак, праз яе заступніцтва просяць аб лёгкай смерці.

**25 ліпеня – успамін святога Кшыштафа, які з'яўляецца апекуном кіроўцаў.**

У гэты дзень у каталіцкіх святынях адбываецца блаславленне кіроўцаў і асвячэнне транспартных сродкаў.

**26 ліпеня – успамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Ушанаванне святога Яўхіма і святой Ганны распаўсюджана ва ўсім Касцёле, як на Усходзе, так і на Захадзе. Па меры таго, як распаўсюджваўся культ Маці Божай, узрастала таксама паўсюднае шанаванне яе бацькоў. Ужо ў IV–V стст. у Ерусаліме пры былой купальні Віфезда была пабудаваная капліца, прысвечаная святым Яўхіму і Ганне. Тут нават, згодна з паданнем, павінна размяшчацца іх грабніца. Іншым месцам іх пахавання лічаць Алейную гару.

Літургічнае шанаванне бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі паўстала спачатку на Усходзе. Свята ўвёў у 710 г. імператар Юстыніян II пад назвай «Зачацце св. Ганны». Яно святкавалася ў розныя дні альбо разам са святам св. Яўхіма. На Захадзе яно стала адзначацца пазней. У Неапалі свята вядомае з X ст. Папа Урбан VI у буле «Splendor æternæ gloriæ» ад 21 чэрвеня 1378 г. дазволіў спраўляць гэтую ўрачыстасць у Англіі. Папа Юлій II у 1522 г. распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл і прызначыў датай 20 сакавіка. Аднак Папа Павел V у 1568 адмяніў гэтае свята, спасылаючыся на тое, што пра бацькоў Багародзіцы нічога не паведамляецца ў кнігах Святога Пісання. Тым не менш, перамагло меркаванне, што гэтыя бацькі існавалі і што ім належыць асаблівая пашана. Таму Папа Рыгор XIII аднавіў свята (1584) і прызначыў для яго дзень 26 ліпеня. Папа св. Пій X у 1911 г. увёў асобнае свята св. Яўхіма, прызначыўшы яго на 16 жніўня. Свята св. Ганны працягвала святкавацца 26 ліпеня. Але літургічная рэформа 1969 г. зноў злучыла разам іх імёны ў дзень 26 ліпеня.

*Падрыхтавала Марына Ткач*

# На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага пасвячэння у наступных святароў:

**1 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*;

**3 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Юзаф Ганчыц** *(Ліда)*, **кс. Віктар Савіцкі** *(Нецеч)*, **кс. Вячаслаў Дубавец** *(г. Чэрвень)*; імяніны адзначаюць **а. Томаш Міка OP** *(Віцебск)*, **кс. Анатоль Парахневіч** *(Альковічы)*, **а. Анатоль Ярошка OFMCap** *(Слонім)*, **кс. Тамаш Станзэцкі** *(в. Рагозніца)*, **кс. Анатоль Захарэўскі** *(Міхалішкі)*;

**5 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*;

**6 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Багуслаў Вуйтовіч** *(Гальшаны)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Баран** *(Новалукомль)*;

**7 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*, **кс. Войцех Вальчына MSF** *(Плешчаніцы)*;

**8 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Зянон Рамейка SCJ** *(г.п. Астрына)*, **кс. Людвік Станішэўскі** *(в. Гнязно)*;

**10 ліпеня** – імяніны адзначаюць **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Віталь Даніловіч MIC** *(Орша)*, **кс. Віталь Драздоўскі** *(Магілёў)*, **кс. Віталь Чабатар CMF**, **кс. Віталь Маргуноў** *(Крупкі)*, **кс. Віталь Дабраловіч** *(Мінск)*, **а. Віталь Слука SChP** *(Шчучын)*, **кс. Віталь Вайцяхоўскі** *(в. Каменка)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Іван Огар SDB** *(Смаргонь)*, **кс. Юзаф Мельдзюк** *(Вішнева)*;

**12 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Коўш**;

**13 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Пётр-Павел Кубел** *(в. Крупава)*;

**14 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Віталь Даніловіч MIC** *(Орша)*, **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Антоні Казлоўскі** *(в. Вішнева)*;

**15 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вінцэнт Лісоўскі** *(Ліда)*; імяніны адзначаюць **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*, **кс. Уладзімір Гуляй** *(Ліда)*, **кс. Уладзімір Шкурынскі** *(в. Міжэрычы)*;

**16 ліпеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*;

**17 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Аляксей Раманчук** *(Барысаў)*;

**18 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ежы Барташэвіч** *(Гродна)*, **кс. Казімір Жэвалеўскі** *(в. Лабно)*;

**19 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Бочан CSsR** *(Гродна)*; імяніны адзначае **кс. Вінцэнт Лісоўскі** *(Ліда)*;

**20 ліпеня** – імяніны адзначаюць **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*, **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Варапаева)*, **кс. Чэслаў Адамовіч**, **кс. Чэслаў Паўлюкевіч** *(Рось)*;

**21 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вадзім Мізер MIC** *(Барысаў)*; гадавіна смерці **кардынала Казіміра Свёнтка**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Казімір Ляховіч** *(в. Быстрыца)*;

**22 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Глыбокае)*, **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*;

**23 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Сасноўскі** *(Гродна)*; імяніны адзначае **кс. Ежы Ігнатовіч** *(в. Правыя Масты)*;

**24 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генрык Яблонскі** *(Ваўкавыск)*;

**25 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Анатоль Ярошка OFMCap** *(Слонім)*; імяніны адзначаюць **а. Кшыштаф Коц'ян OP**, **кс. Кшыштаф Мянкіна** *(Мёры)*, **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Кшыштаф Пасвята CSMA**, **кс. Кшыштаф Янас**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Глыбокае)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*, **кс. Аляксей Юркайць** *(Параф'янава)*;

**28 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*; імяніны адзначаюць **кс. Віктар Бочан CSsR** *(Гродна)*, **кс. Віктар Барысевіч OFMCap** *(в. Ліпнішкі)*, **кс. Віктар Ханька** *(Масты)*, **кс. Віктар Мыслюк**, **кс. Віктар Савіцкі** *(в. Нецеч)*, **кс. Віктар Субель** *(в. Трабы)*, **кс. Віктар Вялівіс** *(в. Грандзічы)*, **кс. Віктар Захарэўскі** *(в. Раготна)*;

**29 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксей Юркайць** *(Параф'янава)*;

**30 ліпеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*;

**31 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Ігнат Санюта** *(Ахрэмаўцы)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

***Падрыхтавала Марына Ткач***

# Святы Бэнэдыкт – абат, апякун Еўропы.

## 11 ліпеня



**Спіс вялікіх людзей Еўропы немагчыма ўявіць без духоўных асобаў. Бэнэдыкт з Нурсіі – святар, манах і абат – нездарма названы патрыярхам манаскага жыцця на хрысціянскім Захадзе. Менавіта "Рэгула жыцця св. Бэнэдыкта" да сённяшняга дня, гэта значыць, ужо больш за 1500 гадоў, з'яўляецца жыццёвым правілам для тысяч манахаў.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін*

Бэнэдыкт – нашчадак аднаго з багатых і знакамітых родаў Італіі. Ужо з маладосці ён шукаў блізкасці з Богам. Распачаў жыццё пустэльніка, быў запрошаны ўзначаліць манаскую супольнасць. За сваю строгасць ледзьве не заплаціў жыццём: браты хацелі яго атруціць. Зноў вярнуўся ў пустэльню і з часам стаў духоўным настаўнікам для шматлікіх вучняў, з якімі заснаваў вядомы да сённяшняга дня кляштар Монтэ Касіна.

Па сутнасці св. Бэнэдыкт не заснаваў супольнасць як такую. Кожны бэнэдыктынскі кляштар незалежны, хоць і ўваходзіць у саюз кляштараў. "Рэгула" ва ўсіх адна, але традыцыя яе разумення і выкарыстання на практыцы можа адрозніварца.

Бэнэдыкт сваю "Рэгулу" звёў да кароткага дэвізу: "ora et labora"–"маліся і працуй". Жыццё ў кляштары дзялілася на тры амаль што роўныя часткі – малітва, праца, адпачынак. Пад словам "праца" разумелі як фізічны складнік, так і інтэлектуальны. Менавіта любоў да фізічнай працы дазволіла кляштарам з часам стаць цэнтрамі перадавога вядзення сельскай гаспадаркі. Асабліва славіліся бэнэдыктынскія абацтвы пчалярствам і развядзеннем рыбы.

> **"За сваю строгасць ледзьве не заплаціў жыццём: браты хацелі яго атруціць"**

Сваімі ведамі манахі дзяліліся з іншымі. Інтэлектуальная праца зрабіла манастыры культурна-духоўнымі цэнтрамі ўсёй Еўропы. Манахі прыдумалі новы спосаб пісьма – мінускулу, які прыйшоў на змену гатычным завітушкам і зрабіў тэкст больш чытальным. Традыцыя перапісвання духоўнай, а пазней таксама і вартай свецкай літаратуры паспрыяла стварэнню манастырскіх бібліятэк. Вядома, пры адсутнасці інтэрнэту менавіта бібліятэкі былі месцам, дзе атрымлівалі адукацыю шматлікія мысляры і багасловы Касцёла.

Сённяшняя Еўропа, якая так імкнецца падкрэсліць сваю свецкасць і незалежнасць ад рэлігійнага пачатку, абсалютна незразумелая, пустая, неадукаваная без спадчыны св. Бэнэдыкта і яго духоўных сыноў.

Святы Бэнэдыкт памёр гэтаксама, як і жыў, – актыўна. Прадчуваючы надыход сваёй апошняй зямной хвіліны, ён папрасіў братоў падняць яго з ложка. Трымаючыся на нагах пры падтрымцы братоў, Бэнэдыкт падняў рукі, пачаў чытаць псальм і так, у малітве праслаўлення, увайшоў у Божае Валадарства.

# Бог Спрадвечны, Ойча наш

**Словы:** кс. Сяргей Сурыновіч **Мелодыя:** Нясвіжскі катэхізіс (1563–64)










**1.** Хваліць неба і зямля
Слаўнае, жывое
Найчысцейшае імя
Божае, святое.

**Прыпеў:**
Бог спрадвечны, Ойча наш,
Валадар стварэння,
Словы шчырыя прымі
Нашага малення.

**2.** Ласкай сэрцы наталі,
Збаў ліхой нядолі,
Побыт здзейсніць на зямлі
Па Тваёй дай волі.

**Прыпеў:**
Бог спрадвечны, Ойча наш...

**3.** Хлеб штодзённы нам падай,
Адпусці правіны,
Душы завядзі ў рай,
Збаўца літасцівы.

**Прыпеў:**
Бог спрадвечны, Ойча наш...

**4.** Ад спакус нас беражы
Моцай паўстрымання,
Збаў ад злога, ацалі
Ласкай навяртання.

**Прыпеў:**
Бог спрадвечны, Ойча наш...

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем у газету пяшчотныя словы віншавання, вялікай удзячнасці, радасці і гонару нашаму былому пробашчу **ксяндзу Анджэю Бульчаку**, які 17 чэрвеня адзначае гадавіну святарскага пасвячэння.*

*Мы дзякуем Богу за дар Вашага жыцця, шаноўны ксёндз Анджэй, і за ласку спаткання з Вамі на нашай чашніцкай зямлі. Нізкі паклон ад усіх парафіян за адданае служэнне Богу і людзям, за добрае сэрца, за чыстую, светлую і адчувальную душу, за той пазітыўны настрой, які Вы заўсёды стваралі, за бясконцы аптымізм, што зыходзіў з Вашай светлай постаці!*

*Шэсць гадоў Вашай святарскай дзейнасці былі прысвечаны высакародным справам, Вы паказалі сапраўдны прыклад самаадданага служэння Богу і шмат зрабілі дзеля таго, каб парафіяне захавалі ў сваіх сэрцах веру, пранеслі яе праз усе жыццё і перадалі нашчадкам.*

*Сардэчна дзякуем Вам, паважаны ксёндз Анджэй, Вашым бацькам, родным і блізкім, Вашым сябрам за ахвярную працу на будоўлі нашага касцёла! Вялікі дзякуй за дапамогу, падтрымку і шматгадовы ўдзел у жыцці парафіі! Мы заўсёды з Вамі, падтрымліваем Вас, зычым Божай ласкі і плёну на новыя доўгія гады!*

*Складаем шчырыя і сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, творчага запалу, плённай працы, жыццёвай мудрасці і шмат радасці! А як Настаўніку каталіцкай Веры – як мага больш нястомных паслядоўнікаў у служэнні Хрысту і Касцёлу! Няхай Добры і Міласэрны Бог дапамагае Вам ва ўсіх Вашых справах і інтэнцыях!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Панскага ў г.Чашнікі***

## Віншаванне з Крупак



***Ксёндз-канцлер Віцебскай дыяцэзіі Адам Дынак** 31 мая адзначыў Дзень нараджэння. Мы ўдзячныя Богу за такога цудоўнага святара і сапраўднага гаспадара!*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, паважаны кс. Адам, моцнага здароўя, душэўнага спакою, аптымізму, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога і ўсіх Божых ласкаў! Жадаем, каб на Вашым шляху сустрэлася шмат адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў. Дзякуем Вам за працу, за шчырасць і адданасць!*

***З павагай і малітвай, парафіяне касцёла св. Юзафа (г. Крупкі)***

## Віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Мы, вернікі лужкаўскай парафіі касцёла імя Арханёла Міхала, што знаходзіцца на Шаркаўшчынскай зямлі, ад усіх шчырых сэрцаў віншуем нашага паважанага **ксяндза Міхала Татарэнку** з юбілеем, які ён адзначае 1 ліпеня!*

*Вось ужо 11 гадоў, як ён працуе на ніве Хрыста, і з іх шэсць гадоў у нашай парафіі. Хутка бяжыць час. Многа сіл і здароўя ксёндз Міхал уклаў у жыццё нашага касцёла, каб усе мы сталі адной вялікай сям'ёй, каб мы па-сапраўднаму адчулі сілу малітвы, зразумелі Божае слова, каб, выходзячы з касцёла пасля Імшы з прыўзнятым настроем, заўсёды адчувалі у сваіх сэрцах супакой і еднасць ад шчырай малітвы і вялікае жаданне дапамагчы, як мага больш зрабіць дзеля таго, каб наш касцёл квітнеў і прыгажэў з кожным годам. Ён, як ніхто іншы, сее дабрыню ў нашыя сэрцы, і мы вельмі ўдзячныя Пану Богу, што можам дапамагаць нашаму ксяндзу Міхалу ва ўсіх яго справах, бо праца з ім прыносіць асалоду ў нашыя душы.*

*Шаноўны ойчанька! Прыміце нашыя самыя шчырыя віншаванні з нагоды Вашага юбілею! Няхай міласэрны Езус, Якога Вы трымаеце ў сваіх далонях, кожны дзень прытуляе Вас да свайго сэрца і заўсёды благаслаўляе Вас на добрыя ўчынкі і прыгожыя ўзнёслыя думкі на Вашым святарскім шляху!*

***Жадаем здароўя і плёну ў працы,***
***Сілы на ніве Хрыстовай змагацца,***
***Верных сяброў, справядлівага лёсу,***
***Вернікаў шчырых, памкненняў узнёслых!***

***Будзем аб гэтым прасіць пана Бога***
***і апекуна Арханёла Міхала.***

*Шчыра дзякуем і нізка кланяемся Вам за Вашу працу ў нашай парафіі.*

***Вернікі лужкаўскага касцёла***

## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем святароў і духоўных асоб са знамянальнымі датамі ў іх жыцці.*

*13 чэрвеня імяніны адзначае **кс. Алег Півавар** (Лёзна), а таксама **кс. Андрэй Возьняк SCJ** (Паставы);*

*17 чэрвеня – гадавіна святарскага пасвячэння **кс. Андрэя Бульчака** (Паставы);*

*19 чэрвеня – дзень нараджэння **кс. дэкана Андрэя Возьняка**;*

*27 чэрвеня – імяніны **біскупа на пенсіі Уладзіслава Бліна**.*

*Шчыра дзякуем усім пералічаным асобам за іх высакароднае служэнне на Божай ніве! Жадаем ім моцнага здароўя, Божых ласкаў і апекі Маці Божай, добрых і адданых нашай веры парафіян!*

***З глыбокай павагай і ўдзячнасцю, вернікі пастаўскіх парафій***

## Шчыра віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!

*21 чэрвеня спаўняюцца два гады святарства **ксяндза Юзафа Сярпейкі**.*

*Шчыра віншуем паважанага ксяндза з другой гадавінай святарскіх пасвячэнняў!*

*Паважаны ксёндз Юзаф!*

*Мы ўдзячныя Богу за тое, што выбраў Вас з многіх. І хоць вельмі кароткі час, але мы былі шчаслівыя мець Вас у нашым касцёле – такога мудрага, энергічнага, цудоўнага святара. Мы ўдзячныя Богу, што ведаем Вас, што мелі магчымасць слухаць Вашы мудрыя казанні і працягваем іх слухаць з дапамогай сацыяльных сетак. Кожны з нас дзякуючы Вам адкрыў многа новага для сябе, што ўзмацніла нашу веру.*

*Дзякуем Вам за Ваша вялікае, добрае сэрца, за Вашу цудоўную ўсмешку, глыбокую веру, за аптымізм і любоў да людзей!*

*Жадаем Вам, паважаны ксёндз Юзаф, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога! Няхай Пан Бог дапамагае Вам ажыццявіць Вашы мары і задумы!*

*Мы заўсёды молімся за Вас і не трацім надзеі зноў адчуць Вашу душпастырскую апеку ў нашым рубяжэвіцкім касцёле.*

***З любоўю і малітвай, з вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, удзельнікі малітоўнага руху "Апостальства Маргарыткі" і ўсе парафіяне рубяжэвіцкага касцёла Святога Юзафа, якія Вас вельмі любяць***

## Віншуем! Паважаны ксёндз Эдвард Ахрамовіч!



*1 чэрвеня ў Вас 30-я гадавіна святарства і 58-я гадавіна з дня нараджэння.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, каб жыццёвы шлях быў доўгім і шчаслівым, каб здароўе ніколі не падводзіла, а побач былі толькі добразычлівыя людзі. Няхай здзейсняцца Вашыя патаемныя жаданні і памкненні, хай захавацца ўсё добрае, што ёсць у Вашым жыцці, хай памнажацца імгненні радасці, любові, аптымізму! Зычым настойлівасці і цярпення ў вырашэнні штодзённых задач!*

*Дзякуем Вам за адданую працу ў нашай парафіі, за ўсмешку, за добрыя словы, з якімі заўсёды сустракалі кожнага, за шчырую малітву і за абвяшчэнне Божага слова.*

***Вернікі дрысвяцкай парафіі св. Пятра і Паўла (Браслаўскі р-н)***

# Што? Дзе? Калі?

## Каталіцкая віктарына

1. Якой прысягі не складае дыяцэзіяльны святар?
а) Беднасць
б) Паслухмянасць
в) Цэлібат

2. Касцельны горад-дзяржава:
А) Рым
Б) Ватыкан
В) Фаціма

3. Св. Альфонс Лігуоры заснаваў ордэн:
А) Дамініканцаў
Б) Францішканцаў
В) Рэдэмптарыстаў

4. Хрысціянскі шабат - гэта:
А) Субота
Б) Пятніца
В) Нядзеля

5. Што такое Via crucis?
А) Крыжовы шлях
Б) Млечны Шлях
В) Крыжовы паход

6. Белы каўнерык у каталіцкага святара:
А) Сутана
Б) Каларатка
В) Комжа

7. Белае адзенне, якое апранае святар, дыякан і акаліт:
А) Арнат
Б) Альба
В) Капа

8. Слова, якое ў тэалогіі азначае ператварэнне хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста:
А) Трансубстанцыяцыя
Б) Трансплантацыя
В) Трансфармацыя

9. Самы доўгі Сусветны Сабор, які доўжыўся больш за 15 год у 16 стагоддзі:
А) Ерусалімскі
Б) Нікейскі
В) Трыдэнцкі

10. Колькі ёсць тэалагічных цнотаў?
А) 7
Б) 5
В) 3

11. Горад Абрагама:
А) Ур
Б) Афіны
В) Пальміра

12. Адзін з тытулаў Папы:
А) Вікарый Хрыста
Б) Біскуп Сусвету
В) Апякун Рыма

13. Камунія для таго, хто пры смерці, называецца:
А) Віятык
Б) Балеснасць
В) Кантэмпляцыя

14. Бацька Яна Хрысціцеля:
А) Ян
Б) Захарый
В) Саўл

15. Беларускі Нацыянальны Санктуарый знаходзіцца ў:
А) Мінск
Б) Магілёў
В) Будслаў

16. Словы на гербе біскупа Алега Буткевіча:
А) Вітай, Марыя
Б) Будзь воля Твая
В) Хвала Хрысту!

17. Чырвоны касцёл збудаваны ў:
А) 1910
Б) 1914
В) 1918

18. Асабістае імя Бога Ізраэля:
А) Санктус
Б) Егова
В) Ягвэ

19. Езус сказаў, што яно лёгкае:
А) Слова
Б) Насенне
В) Ярмо

20. Колькі католікаў у свеце?
А) 1 млрд 200 млн
Б) 990 млн
В) 2 млрд

***Падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч***

***Адказы глядзіце на стар. 10***

# Язык жестов: читаем человека, словно книгу

**На протяжении всей своей жизни мы приобретаем массу знаний в различных отраслях: умеем извлекать квадратный корень, изучаем языки, знаем историю, интересуемся искусством, медициной, музыкой и т.д.**

■ **Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*

Этот перечень можно продолжать достаточно долго. Поэтому сегодня мы поговорим о ещё одной отрасли – кинестике, которая изучает совокупность жестов, поз, телодвижений, используемых при коммуникации в качестве дополнительных выразительных средств общения. Временами с помощью них можно сказать гораздо больше, чем с помощью слов. Специалист по «языку телодвижений» Алан Пиз утверждает, что словами передается 7% информации, звуковыми средствами (включая тон голоса, интонацию и т. п.) – 38%, мимикой, жестами, позами (невербальное общение) – 55%. Иными словами, важно не что говориться, а как это говориться.

В отличие от речи, в своих невербальных действиях человек не лжёт. Это способствует установлению контакта как в личном общении, так и в профессиональной сфере.

Вместе с тем недопустим прямолинейный подход к расшифровке коммуникационных телодвижений. Нужно учитывать их национальные и культурные особенности, поскольку есть жесты, одинаковые для всех людей, а есть те, которые присущи только какой-то определённой среде. Нельзя судить о намерении человека по одному телодвижению, нужно обязательно соотносить телодвижения с речью. Отсутствие совпадения одного с другим, скорее всего, свидетельствует, что в своих словах человек что-то недоговаривает.

Учёт этих факторов позволит не ошибиться в интерпретации той информации, которую действительно хочет донести до Вас собеседник, и правильно оценить его намерения.

Жесты невербального общения условно можно разделить на те, которые мы делаем сознательно, которые поддаются нашему контролю, и на бессознательные, которые контролировать мы не в силах.

**Движение глаз.** Внимательный, заинтересованный, неравнодушный собеседник будет смотреть в глаза. Если в разговоре он тупит глаза *влево*, значит, вспоминает важную деталь из прошлого. Предпочитают смотреть *вправо* те, кто в данный момент находится в далеком воображаемом будущем. *Смотрит вверх* при обдумывании ваших слов – значит, вспоминает приятные моменты, связанные с положительными эмоциями; *глаза опускаются вниз* – это показывает нам, что вспоминаются неприятные моменты или эмоции, либо это сигнал к тому, что тема разговора неприятна; *бегающие из стороны в сторону глаза* не всегда могут свидетельствовать о желании обмануть, но также и о том, что собеседник, получив новую порцию информации, «сканирует» свой мозг, пытаясь отыскать «совпадения».

Когда человек только формулирует мысль, он чаще всего *смотрит в сторону («в пространство»)*, когда мысль полностью готова – на собеседника. Если речь идет о сложных вещах, на собеседника смотрят меньше, когда трудность преодолевается – больше. Ваш взгляд должен встречаться с глазами партнера около 60-70% от всего времени общения.

Следующий пункт – **поза, или положение человеческого тела**. Поза наглядно показывает, как данный человек воспринимает свой статус по отношению к статусу других присутствующих лиц. И вот некоторые из них:

■ руки заложены за спину, голова высоко поднята, подбородок выставлен; сложенные «домиком» руки, руки в области груди, но не скрещены, раскачивание на стуле – демонстрация уверенности в себе и превосходства над другими;

■ скрещенные конечности – скептическая защитная установка;

■ сидение на крае стула – готовность вскочить в любой момент, чтобы либо уйти, либо действовать в создавшейся ситуации, либо унять скопившееся возбуждение, либо привлечь к себе внимание и подключиться к разговору;

■ закидывание ноги на ногу со скрещиванием рук на груди – знак «отключения» от разговора либо знак защиты;

■ руки опираются локтями о стол, а их кисти расположены перед ртом – скрывание своих истинных намерений, игра с партнёром в кошки-мышки;

И, наконец, **значение жестов** – разнообразных движений руками и головой.

● **Жесты оценки ситуации** – почёсывание подбородка; вытягивание указательного пальца вдоль щеки, а если этот жест сопровождается ещё и наклоном тела от партнёра, то оценка будет, скорее всего, критической, негативной; вставание и прохаживание.

● **Жесты нервозности и неуверенности** – переплетённые пальцы рук, пощипывание ладони, постукивание пальцами по столу или другим предметам, касание



спинки стула перед тем, как на него сесть, покашливание, разглядывание окружающих, блуждающий взгляд.

● **Жесты с очками** – если человек то и дело снимает очки и протирает стёкла, это признак того, что он тянет время; если он играет с очками, то и дело перекладывая их из руки в руку, – это свидетельство того, что он чувствует себя неловко, пытается найти тему для разговора. Человек, который привык управлять другими, часто использует очки в качестве указки и показывает ими на предметы или просто размахивает. Если человек рисует очками всевозможные круги или иные фигуры, – это сигнал, что вы ему уже изрядно надоели и беседу пора завершать.

● **Жесты самоконтроля** – руки заведены за спину, одна рука при этом сжимает другую; поза человека, сидящего на стуле и вцепившегося руками в подлокотник, говорит нам о контроле поведения или эмоций. Ещё один признак самоконтроля – смех невпопад. Это признак того, что перед вами очень эмоциональный человек, склонный к нервозности. Возможно, он находится на грани нервного срыва.

Если человеку интересно с вами общаться, то он будет мало жестикулировать, больше он всё-таки будет говорить. Жесты вступают в игру тогда, когда людям больше не о чем поговорить. А вот если скучно, он будет покачивать ногой из стороны в сторону или косаться мочки уха, старается принять наиболее удобную для него позу. Снятие очков и помещение их в футляр также может свидетельствовать о скуке и намерении уйти.

Вывод только один: не только речь, слова могут сообщать нам ту или иную информацию, но также и наше тело имеет свой «язык», который порой очень «громко» и весомо участвует в процессе общения. Придерживайтесь в общении высказывания Конфуция: *«Есть три ошибки в общении людей: первая – это желание говорить прежде, чем нужно; вторая – застенчивость, не говорить, когда это нужно; третья – говорить, не наблюдая за вашим слушателем»*.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

**Рэдакцыя**
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл.

# ПАЗНАВАЙКА



## Выкраслі непатрэбныя літары

У кожным радку выкраслі ўсе літары П і К. Літары, якія засталіся, выпішы. Тады ты даведаешся, пра што трэба памятаць летам. Адказ запішы.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| П | М | П | К | К |
| К | К | А | П | П |
| Л | П | і | К | П |
| К | П | Т | К | К |
| П | В | П | К | А |

## Падстаў літары і даведайся

Лета – час паломніцтваў. Уважліва, падстаўляючы патрэбныя літары, прачытай, як называецца чалавек, які падарожнічае да святых месцаў. Адказ запішы.




## УВАГА! Аб'яўлены конкурс малюнкаў!

Дарагія сябры і сяброўкі!!! «Пазнавайка» аб'яўляе конкурс дзіцячых малюнкаў, прысвечаных цудоўнай пары года – лету. Тэма конкурса: "Мае канікулы з Богам". Конкурс стартуе 16 чэрвеня. Да 7 ліпеня будуць прымацца Вашыя працы. Малюнкі трох пераможцаў, якіх вызначыць рэдакцыя "Каталіцкага Весніка", будуць надрукаваны ў ліпеньскім нумары. Самых актыўных і творчых чакаюць карысныя прызы!

Малюнкі неабходна выслаць поштай для "КаталіцкагаВесніка" па адрасе:

*211800, вуліца Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобласць.*

Аўтарам малюнкаў таксама неабходна паведаміць пра сябе: *імя, прозвішча, адрас (для дастаўкі прызоў і падарункаў) і кантактны тэлефон (адрас электроннай пошты), школу і клас (садок).*

## Прачытай і даведайся, калі Бог стварыў расліны?

Улетку расцвітае вельмі шмат прыгожых кветачак. Разам з бацькамі ў Бібліі, у кнізе Быцця, прачытай, на які дзень Бог стварыў расліны?

У пустым кружочку напішы лічбу таго дня, калі Бог стварыў кветкі і ўсе расліны?



## Прачытай літары, змешчаныя ў клубніцах

Перад табою смачныя і салодкія клубніцы. У кожнай з іх знаходзяцца літары. Пачні чытаць з самай вялікай ягадкі. Прачытаўшы словы цалкам, даведаешся назву месяца, які прысвечаны Сэрцу Езуса.




## Напішы пажаданні

На кожным праменьчыку летняга сонейка напішы пажаданне сябру. Што ты яму жадаеш гэтым летам?




## Складзі пазлы

Складзі цалкам падыходзячыя кавалкі пазлаў. Атрымаецца слова, якое неабходна прачытаць і запісаць на месцы кропачак

Канікулы з Богам – гэта ______________.




## Як можна патрапіць на Неба?

Летам шмат вольнага часу. Можна рабіць шмат дабра. Уважліва паглядзі на малюнкі. З брамамі Неба стрэлкамі злучы толькі тыя,на якіх паказаныя добрыя ўчынкі









*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *Ідэя:* ***Ірына Грэйць***

# Ці ўплывае на плённасць святой Імшы пабожнасць святара?



*"Ці ўплывае на плённасць святой Імшы пабожнасць святара?"*
*Марта*

**На пытанне адказвае а. Андрэй Сідаровіч MIC:**

– Адказваючы на гэтае пытанне, хочацца прывесці такое параўнанне. Калі нам баляць зубы, то мы ідзём "у госці" да стаматолага. Вельмі часта пытаемся ў знаёмых, ці ведаюць яны добрага спецыяліста. Для нас найважнейшая прафесійная падрыхтаванасць урача, каб даверыць яму наш зубны боль. Канешне, гэта будзе дадатковы, прыемны бонус, калі лекар акажацца чалавекам ветлівым, культурным і з уменнем суперажываць. Але калі нават ён будзе хамам, то гэта не значыць, што нашы зубы ён не вылечыць.

Падобна (хоць і не дакладна) і са святарскім служэннем. Прафесійныя якасці – гэта атрыманае святарскае пасвячэнне. І не залежна ад таго, што святар перажывае, у якім знаходзіцца настроі, яго служэнне прыносіць карысць верніку на моцы пасвячэння. Касцёл называе гэта дзеяннем ex opere operato (сакрамант, дзейсны на падставе яго ўдзялення). Нават асабісты грэх святара не з'яўляецца перашкодай для Пана Бога. У нейкім сэнсе Бог нас перастрахаваў перад святаром-грэшнікам.

> **Касцёл называе гэта дзеяннем ex opere operato (сакрамант, дзейсны на падставе яго ўдзялення).**

Але вядома, што мы інтуітыўна імкнёмся да святара, які, апрача "прафпрыгоднасці" (пасвячэння), таксама вызначаецца асабістымі якасцямі: культурай зносінаў, уменнем слухаць, суперажываць і інш. І, канешне, нас прываблiваюць якасці духоўныя: асабістая пабожнасць, малітва, жыццё са словам Божым, імкненне да святасці, анёльская цярплівасць, сэрца пастыра, які дбае пра сваіх авечак.

Гэтае пытанне заахвочвае да двух пастаноў: да малітвы за святароў пра ласку святасці для іх, а таксама да асцярожнасці ў суджэнні пра іншага чалавека, пабожны ён ці не.

# Навошта святар дадае ваду ў віно?

*"Навошта святар дадае ваду ў віно?"*
*Іра*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Пасля заканчэння Літургіі слова – першай часткі святой Імшы – наступае Эўхарыстычная Літургія, якая пачынаецца з так званай падрыхтоўкі ахвярных дароў. Падчас гэтай падрыхтоўкі святар або дыякан дадае кроплю вады да віна, што налітае ў келіх. Пры гэтым ціха прамаўляюцца словы: "Праз таямніцу гэтай вады і віна дай нам, Божа, удзел у бостве Хрыста, які прыняў нашую чалавечую натуру".



Гэтае дзеянне мае багатую сімволіку. Адны бачаць у ім успамін цуда ў Кане Галілейскай, калі на вяселлі Езус пераманіў ваду ў віно. Некаторыя падкрэсліваюць: паколькі віна ў келіху нашмат больш чым вады, а вада ў віне становіцца незаўважнай, то гэта нагадвае нам ахвяру Хрыста, якая непараўнальная з нашымі чалавечымі ахвярамі.

Урэшце, тыя словы, якія прамаўляюцца падчас змешвання вады і віна, адсылаюць нас да тлумачэння гэтага дзеяння яшчэ святым Кіпрыянам, каторы памёр у 258 годзе. Для гэтага біскупа "вада азначае народ, а віно – Кроў Хрыста (...), як у келіху віно і вада змешаныя, так і народ становіцца адным цэлым з Хрыстом". Такім чынам, ахвяра Хрыста, якая складаецца падчас Імшы, становіцца ахвярай усіх вернікаў Касцёла.

Усходняя хрысціянская традыцыя звяртае ўвагу на сувязь гэтага літургічнага дзеяння з прабітым бокам Хрыста, з якога пралілася кроў і вада. Пра гэта ўзгадваў таксама Трыдэнцкі сабор.

Некаторыя дзеянні, якія адбываюцца падчас Імшы, раней мелі чыста практычнае значэнне, а ўжо потым яны атрымалі сімвалічнае тлумачэнне. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ў старажытнасці ў штодзённым жыцці было агульнапрынятым, п'ючы віно, дадаваць у яго ваду. Тое самае магло адбыцца падчас Апошняй вячэры.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**19 чэрвеня 2016 г.**
***Лк 9, 18-24***

Людзі маюць сваё меркаванне пра Езуса. Часцей за ўсё яно заснавана на іх перакананнях, ведах і выказваннях іншых людзей. Аднак не заўсёды ведаў бывае дастаткова, а настаўнікі не заўсёды кампетэнтнымі. Людзі любяць выказванні тыпу: я ведаю, я думаю..., але не пытаюцца, што пра тое ці гэта думае Езус. Езус паступова аб'яўляе, кім Ён ёсць, каб пазбегнуць непаразуменняў. Звяртаючыся да апосталаў, адкрыў ім праўду пра сябе, але цалкам зразумелі яны яе толькі пасля Спаслання Святога Духа.

*– Ці слухаю і чытаю, што Езус кажа пра сябе?*

*– Ці разумею, што без разумення таго, кім для мяне з'яўляецца Езус, я не стану сур'ёзным хрысціянінам?*

*– Ці разумею, што развіваючыся духоўна, паглыбляю свае веды пра Езуса?*

*– Ці слухаю Яго навуку і ці клапачуся пра сваё духоўнае развіццё?*

*– Ці маю духоўніка?*

*– Ці рэгулярна спавядаюся?*

*– Ці разважаю Божае слова?*

*– Ці вывучаю хрысціянскую веру?*

*– А можа, упарта трываю пры сваіх перакананнях пра Езуса і Яго навуку і не дазваляю, каб Ён штосьці мне сказаў?*

**26 чэрвеня 2016 г.**
***Лк 9, 51-62***

Езус вядзе сваіх вучняў па дарозе да неба. Гэта новы спосаб крочання па жыццёвых дарогах. Вучань Езуса, які мае ў сваім сэрцы Езуса, гэта значыць Божае Валадарства, думае па-новаму. Вучні Божага Валадарства на адказваюць злом на зло. Сваёй міласэрнай любоўю яны разрываюць ланцугі нянавісці і помсты, якімі людзі звязаны. Хто хоча ісці за Езусам, павінен разумець, што гэта патрабуе радыкалізму, каб як Езус прыняць, напрыклад, беднасць ці іншыя пакуты. Таму што сапраўднае багацце ў Езуса. За Богам трэба ісці ўсім сэрцам, а не нейкай адной яго часткай, таму што гэта – дарога любові. І ісці трэба тут і зараз. Той , хто любіць , не чакае, толькі любіць тут і зараз.

*– Як я паводжу сябе, калі сустракаю непрыемных для мяне людзей?*

*– Як вучань Хрыста ці паводле мудрасці гэтага свету?*

*– Якім з'яўляецца жыццё побач мяне, са мной: Божым ці пякельным?*

*– Ці гатовы я адрачыся ад усяго, што перашкаджае ў маёй любові да Езуса?*

*– Ці не цаню больш за ўсё камфорт і спакойнае жыццё?*

*– Ці гатовы я памерці за веру?*

*– Ці Бог першы ў маім сэрцы і ў маім жыцці?*

*– Сёння ці Яго волю я выконваю і ці па Яго законах жыву?*

*– А можа, марную Божыя дары і ласкі, думаючы, што яшчэ не час для любові і для Бога?*

**3 ліпеня 2016 г.**
***Лк 10, 1-9***

Езус паслаў сваіх вучняў абвяшчаць Божае Валадарства. Гэта місія працягваецца і сёння, бо шмат людзей не ведае Божай любові. І сёння шмат людзей не прыняло Езуса Валадаром свайго сэрца. Яго праўду і сёння не заўсёды прымаюць прыхільна, не заўсёды хочуць слухаць Яго слова. Вучань Езуса павінен мець здаровыя адносіны да матэрыяльных каштоўнасцяў, каб клопаты, звязаныя з ім, не перашкаджалі ў Божай справе. Галоўным у справе абвяшчэння Евангелля павінна з'яўляцца асоба Езуса і духоўнае дабро людзей, да якіх ідзём.

*– Ці разумею, што Езус і мяне паслаў, каб я сведчыў пра Бога ў маім сэрцы?*

*– Ці абвяшчаю блізкасць Езуса словам, усмешкай, любоўю, дабром, якое раблю?*

*– Ці разумею, што мая вера падабаецца не ўсім?*

*– Ці часам не саромлюся сваёй веры або ці не адракаюся ад яе?*

*– Як паводжу сябе, калі сустракаю праблемы?*

*– Можа, маё сведчанне пра Езуса не плённае з-за нездаровай прывязанасці да грошай ці іншых багаццяў гэтага свету?*

*– Ці прысутныя Езус, вера, духоўныя каштоўнасці ў маім сужэнстве, у маёй сям'і і сярод маіх сяброў?*

**10 ліпеня 2016 г.**
***Лк 10, 25-37***

Прыпавесць Святога Лукі – спевака Божай Міласэрнасці – у год Міласэрнасці варта прачытаць з большай руплівасцю. Каб атрымаць Вечнае жыццё – трэба любіць. Любоў міласэрная. Міласэрнасць – гэта не разглядванне сваіх прымхаў і непрыязнасцяў. Гэта здольнасць прабачыць. Гэта заўважанне чужой бяды. Гэта шкадаванне няшчаснага. Міласэрнасць –гэта асабістае заангажаванне ў справы патрабуючага.

*– Я міласэрны?*

*– Я люблю?*

*– Ці памятаю, што гэта дарога да неба?*

*– Ці прабачаю?*

*– А можа, кіруюся ў жыцці жаданнем адпомсціць, адплаціць дрэнным?*

*– А можа, крыўджу і карыстаюся малымі, слабымі і бездапаможнымі?*

*– Ці бачу беды і патрэбы іншых?*

*– Ці не засяроджаны празмерна на сваіх бедах і праблемах?*

*– Ці ёсць ува мне ўражлівасць і спачуванне да церпячых?*

*– Што раблю, каб памагчы патрабуючым?*

*– Калі апошні раз я зрабіў добры ўчынак?*

*– Калі асабіста дапамагаў словам, учынкам ці малітвай патрабуючым?*

*– Ці бачу патрэбы самых блізкіх людзей?*

*– Ці люблю, паважаю самога сябе?*

*– Ці клапачуся пра сваё духоўнае развіццё і фізічнае здароўе?*

*Разважанні падрыхтаваў* ***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*

